ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 52 (2350) 30 снежня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 10 рублёў.

## З надзеяй — у Новы год

У апошнія дні адыходзячага года і на Беларусі нарэшце сталі назірацца пэўныя прыкметы ўжо блізкага свята: на цэнтральным праспекце сталіцы наладжваецца ілюмінацыя, у парках і на плошчах ставяць навагоднія ёлкі, вітрыны магазінаў зазіхацелі серабрыстай мішурой. Сціпла, безумоўна. Але гэта ўсё, чым можа сёння парадаваць сваіх грамадзян наша дзяржава. Сёлета нават традыцыйны навагодні кулёчак з цукеркамі дастанецца не ўсім дзецям. У Мінску гарвыканком аплаціць толькі навагодняе прадстаўленне ў Палацы спорту, а на падарункі і аўтобусы, каб прывезці дзяцей, грошай няма. Дагэтуль гарантаваны кожнаму сталічнаму школьніку навагодні святочны мінімум сёлета адмяняецца. Так, цяжка жыве Беларусь. Але адбіраць навагодні кулёк з цукеркамі ў сваіх і так не вельмі спешчаных дзяцей -- справа невысакародная. Хутчэй за ўсё гэтыя "грамадскія" цукеркі і сапраўды не вельмі патрэбны дочкам і сынам тых адказных дарослых, якія прымалі такое рашэнне. Але ж у першую чаргу дзяржаўны клопат павінен быць не пра іх, а пра тых дзетак, для якіх агульная зззяючая ёлка на плошчы, магчыма, заменіць уласную ў хаце, бо тая не па кішэні бацькам, а "грамадская" цукерка не стане лішняй сярод небагатых святочных пачастункаў.

Найвялікшая прывабнасць і прыцягальнасць навагодняга свята ў тым, што яно дорыць усім нам надзею. Нягледзячы ні на што, так будзе і на гэты раз. А ўжо ад нас залежыць, каб падораная Новым годам надзея нарэшце спраўдзілася і вочы ўсіх дзяцей Беларусі свяціліся толькі шчасцем.

(На 3-й стар. газеты з чытачамі дзеляцца сваімі перадндавагоднімі, але, на жаль, не вельмі святочнымі думкамі і пачуццямі тыя, ад каго ў значнай ступені залежыць, якім будзе для ўсіх год наступны).






Жак ПРЭВЕР.

## КАБ НАМАЛЯВАЦЬ ПАРТРЭТ ПТУШКІ

Намалюйце спачатку клетку --
адчыніце шырока дзверцы,
намалюйце затым
штосьці прыгожае,
штосьці простае,
штосьці добрае,
штосьці неабходнае
для птушкі.
Прыхіліце сваё палатно
да дрэва
ў дуброве,
у садзе
альбо ў пушчы,
схавайцеся за дрэвам --
ні слова, ні гуку,
ні руху...
Часам птушка
прылятае хутка,
А бывае, мінаюць
год за годам
без аніводнай сустрэчы.
Не трацьце надзеі,
чакайце!
Чакайце, калі трэба,
бо хуткі ці доўгі
прылёт гэтай птушкі
не мае ніякіх адносін
да поспеху вашай
карціны.
А з'явіцца птушка --
(каб толькі з'явілася!) --
упарта маўчыце,
чакайце,
пакуль заляціць
яна ў клетку:
і калі заляцела, --
зачыніце паціху
дзверцы пэндзалем.
Потым
тую клетку,
пруток за пруточкам,
сатрыце,
ані пёрка птушынага
не закраніце.
Намалюйце вясёлае дрэва,
знайдзіце для птушкі
найлепшую
ў свеце галінку,
намалюйце
зялёнае лісце,
свежы вецер,
пылінкі ў праменнях,
і камарыкаў гул,
ды гарачае лета!
Потым трэба чакаць,
каб яна заспявала.
Ваша птушка
не хоча спяваць!
Нядобрая
гэта прыкмета,
знак, што кепская
ваша карціна...
А калі запяе, --
гэта добрая
вельмі прыкмета,
знак,
што можаце
вы падпісацца:
пёрка ў птушкі
пазычце ласкава
і сваё напішыце імя
ў куточку карціны.

*Пераклад з французскай мовы Эдзі АГНЯЦВЕТ.*

(Нататкі з нагоды выхаду зборніка перакладаў з французскай і бельгійскай паэзіі "У пошуках Няздзейсненага" змешчаны на 6-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*З ПРЭС-ЦЭНТРА БСДГ*

## КАРУПЦЫЯЙ АХОПЛЕНА ЎСЯ ЎЛАДА

**Выканаўчы камітэт Цэнтральнай Рады БСДГ прыняў заяву наконт выступлення на сесіі Вярхоўнага Савета часовай камісіі па вывучэнню дзейнасці камерцыйных структур.**

**У заяве адзначаецца, што даклад А.Лукашэнкі не ўтрымлівае нічога прынцыпова новага. Скарыстаныя ў ім факты ўжо вядомыя ўважлівым чытачам газет. Садаклад С.Антончыка з'яўляецца больш прынцыповым, бо выкрывае асноўныя прычыны карупцыі: кансервацыя старой палітычнай сістэмы, адсутнасць эканамічных рэформ і сітуацыя прававога бязладдзя, што стварае спрыяльныя ўмовы для абагачэння кіруючай наменклатуры.**

**Выканком ЦР БСДГ сцвярджае: трохдзённае абмеркаванне пытання аб дзейнасці камерцыйных структур паказала, што карупцыяй ахоплены ўсе эшалоны ўлады -- ад сельскіх і пасялковых да Вярхоўнага Савета, ад выканкомаў мясцовых Саветаў да Савета Міністраў.**

**Слова "карупцыя" ў перакладзе з лацінскай азначае "подкуп", і можна без перабольшання сказаць, што ў нас падкупленая ўлада. Толькі гэтым тлумачыцца рост злачыннасці ў краіне, асабліва злачыннасці арганізаванай. Падкупленыя дзялкамі ценявога бізнесу чыноўнікі і дэпутаты не могуць прыняць адпаведных законаў і практычных захадаў дзеля спынення гэтага зла. Наадварот, яны зацікаўлены ў бязладдзі і неразбярысе, каб абагачацца за кошт народа.**

**Звесткі аб карупцыі ва ўсіх эшалонах улады прымушаюць зрабіць практычную выснову -- гэты Вярхоўны Савет і гэты ўрад павінны пайсці ў адстаўку. Па-ранейшаму надзённым застаецца патрабаванне дэмакратычных партый і рухаў аб сфармаванні кааліцыйнага ўрада і датэрміновых выбарах.**

**Каб пазбавіць народ магчымасці атрымаць інфармацыю аб карупцыі ў органах улады і кіравання, большасць Вярхоўнага Савета вырашыла правесці закрытае пасяджэнне, якое ператварылася ў звычайную сварку, дзе высвятлялася адно пытанне: хто больш узяў і ўкраў.**

**На пасяджэнні прагучала прапанова адмовіцца ад заявы, якую Вярхоўны Савет прыняў у кастрычніку 1992 года. Тады, адхіліўшы патрабаванне 380 тысяч выбаршчыкаў аб правядзенні рэферэндуму, Вярхоўны Савет паабяцаў хутчэй прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і правесці вясной 1994 года датэрміновыя выбары. Як бачым, чапляючыся за ўладу, пракамуністычная большасць у парламенце гатова адмовіцца ад уласнага абяцання датэрміновых выбараў.**

**Закрытае пасяджэнне 16 снежня гэтага года было выкарыстана для чарговых нападак на С.Шушкевіча, рэакцыянеры зноў патрабавалі яго адстаўкі.**

**Выканком Цэнтральнай Рады БСДГ заклікаў усіх грамадзян Беларусі патрабаваць датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет вясной 1994 года і падтрымаць рух забастовачных камітэтаў, якія змагаюцца за сфармаванне кааліцыйнага ўрада і датэрміновыя выбары.**

*АДКУЛЬ ДЗЬМЕ ВЕЦЕР*

## ЗНОЎ ВЯЛІКАЯ І МАГУТНАЯ

**Як падкрэсліў Аляксандр Шохін, расійскі віцэпрэм'ер, Расія на ставіць жорсткай умовай заключэння якіх-небудзь эканамічных дагаворанасцей аб становішчы расіян у краінах Садружнасці, "хаця такія звязкі, але не жорсткія, усё ж існуюць". Ён таксама заявіў, што лічыць мэтазгодным увесці ў краінах СНД другой дзяржаўнай мовай рускую. Гэта, паводле яго слоў, дазволіла б вырашыць многія штучна раздутыя праблемы, а таксама "было б у інтарэсах краін, іх мірнага, стабільнага развіцця, нармальных адносін з суседзямі".**

**Пасля гэтых заяў нашы радзімыя інтэрнацыяналісты, трэба думаць, накінуцца з новай апантанасцю на дзяржаўны статус беларускай мовы.**

*ГОСЦЬ НА СВАЁЙ РАДЗІМЕ*

## БЕЛАРУСКАЯ АРБІТА Я. ЗАПРУДНІКА

**Ва універсітэце культуры ў Мінску адбылася сустрэча Янкі Запрудніка з выкладчыкамі і студэнтамі гэтай ВНУ. Гісторык, паэт, журналіст, грамадскі дзеяч, Янка Запруднік не такі ўжо і рэдкі госць на сваёй Радзіме. Яго арбіта перасякае і Амерыку, і Беларусь. Нядаўна ён выдаў у ЗША кнігу "Беларусь на скрыжаваннях гісторыі" на англійскай мове, цяпер рыхтуецца выкладаць цыкл лекцый "Гісторыя і палітыка Беларусі" ў Калумбійскім універсітэце.**

**Сваю кнігу Янка Запруднік з удзячнасцю падараваў універсітэту культуры, а на пажаданне прачытаць курс лекцый не толькі амерыканскім студэнтам, але і беларускім адказаў шчырай згодай.**



**Сустрэча з гэтым цікавым і эрудзіраваным чалавекам, заўсёды патрыятычна настроеным да сваёй Бацькаўшчыны, нарадзіла шмат думак. Але галоўная -- адна: як многа нам трэба зрабіць, каб пра Беларусь ведаў свет.**

*УЗНАГАРОДЫ*

## СВАЕ, НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ

**У Галоўным упраўленні пагранічных войск пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь зацверджаны і ўжо ўручаюцца знакі салдацкай доблесці з нацыянальнай сімволікай "Выдатнік пагранвойск Беларусі" 1-й і 2-й ступені.**

**Магчыма, хутка з'явіцца ў пагранічнікаў і свой медаль -- "За адзнаку ў ахове дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь". Палажэнне аб статусе гэтай узнагароды распрацоўваецца. Уручыць ёсць за што. Толькі ў гэтым годзе беларускія вартавыя мяжы затрымалі 1 079 парушальнікаў. Да таго ж сёлета канфіскавана 1 315 адзінак зброі.**

*ВЫСТАВА*

## ЛІТАРАТУРА ЭМІГРАЦЫІ

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстаўка літаратуры беларускай эміграцыі са Злучаных Штатаў Амерыкі. Калекцыю кніг, часопісаў (усяго 611 адзінак) перадаў у падарунак бібліятэцы дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, доктар Вітаўт Кіпель у час правядзення Першага з'езда беларусаў свету.**

**На выстаўцы будуць прадстаўлены матэрыялы па гісторыі Беларусі, мове, літаратуры, рэлігіі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ПРЫНЯЦЬ неадкладныя захады да паскарэння вываду расійскіх войск з тэрыторыі Беларусі, патрабаваць ад Расіі як мага хутчэй забраць ад нас сваю ядзерную зброю, спыніць будаўніцтва станцыі папярэджання ракетнага нападу каля Баранавічаў і звярнуцца да міжнароднай супольнасці юрыдычна прызнаць наш суверэнітэт -- такі зварот да Вярхоўнага Савета Беларусі прыняла выканаўчая рада Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

ПОМНІК Максіму Гарэцкаму будзе ўзведзены ў Мінску ў 1994 годзе. Такое рашэнне ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння выдатнага пісьменніка і дзеяча нацыянальнай культуры прыняў урад Беларусі. На гэтыя мэты будзе выдзелена з рэзервовага фонду Савета Міністраў 12 мільёнаў рублёў.

САВЕТ Міністраў рэспублікі прыняў пастанову аб перайменаванні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. У сувязі з новым статусам урад рэспублікі даручыў адпаведным міністэрствам разгледзець умовы аплаты працы работнікаў тэатра -- службовыя аклады купалаўцаў павысяцца ў 1,7 раза.

У СХОВІШЧАХ абласных філіялаў Нацыянальнага банка надзейна схаваны беларускія грошы -- рубель і грош. Пакуль іх ніхто не бачыў і пра лёс іх нічога невядома. Вядома толькі, што за выраб нашай нацыянальнай валюты мюнхенскай фірме заплачана 10 мільёнаў долараў, ступень надзейнасці яе не надта высокая. Пасля прыбыцця апошняй партыі грошай у Мінск клішэ і штампы былі знішчаны ў прысутнасці беларускай дэлегацыі.

ПОСПЕХ Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі быў настолькі вялікі, што ўсе артысты атрымалі званні ганаровых грамадзян штата Мінесота, ЗША, дзе адбываліся выступленні ансамбля. А 7 снежня было аб"яўлена Днём беларускага ансамбля ў Сент-Поле -- сталіцы штата.

САПРАЎДНЫ сюрпрыз да Каляд атрымалі нашы паэты Алесь Разанаў, Сяргей Панізьнік і Іосіф Васілеўскі. Яны сталі дыпламантамі міжнароднага літаратурнага конкурсу, які праводзіўся пад эгідай ЮНЕСКА ў 1992 годзе і быў прысвечаны 500-годдзю адкрыцця Амерыкі.

*"Я добра разумею, што калі не стрымаюся, калі ўзарвуся, кінуся ў палеміку і буду даказваць, што не вярблюд, -- праяўлю слабасць, на якую не маю права. Але іншы раз і я не вытрымліваю. Асабліва тады, калі, скажам, выступае народны дэпутат і кажа: "Мои избиратели говорят" або "Мои избиратели требуют!". Паспрабуй спрачацца з такім дэмагогам! "Мои избиратели..." Ну а сам ты што -- свайго розуму, свайго погляду не маеш? Цябе ж, відаць, за розум, за мудрасць, за разважлівасць дэпутатам выбралі! Дык праяві ж гэтыя свае якасці і выберы з шырокага, як мора, спектра патрабаванняў сваіх выбаршчыкаў самае галоўнае, што патрэбна не толькі "тваім выбаршчыкам", а ўсяму народу Беларусі! Узнміся ад асабістага да дзяржаўнага маштабу!..*

*На вялікі жаль, такіх дэпутатаў нямала, у якіх уся пазіцыя, уся аргументацыя зводзіцца да "мои избиратели требуют..."*

*(З інтэрв'ю Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава ШУШКЕВІЧА газеце "Рэспубліка").*

*АДУКАЦЫЯ*



**Усім вядомы ў Гомелі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту пераўтвораны ў Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту. Цяпер тут пачалі навучанне будучых інжынераў для гарадскога электратранспарту, аўтагаспадарак, а таксама спецыялістаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі і рачнога транспарту рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКУ: прарэктар універсітэта прафесар кафедры "Упраўленне эксплуатацыйнай работай" Валянцін ЯРАШЭВІЧ на занятках са студэнтамі.**

*ПРОСІМ -- ДАЮЦЬ*

## ЛЕКІ З ГЕРМАНІІ

**На асабістую просьбу Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслава Шушкевіча адгукнуўся міністр унутраных спраў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ФРГ пан Герберт Шноар. У Дзюсельдорфе знайшлі сродкі і набылі лякарствы на суму 400 000 нямецкіх марак.**

**Намер прыняць удзел у акцыі па аказанню дапамогі Беларусі выказаў і федэральны міністр замежных спраў доктар Клаус Кінкель. Прадстаўнік федэральнага ўрада заявіў аб гатоўнасці накіраваць на імя Станіслава Шушкевіча медыкаменты на суму 300 000 марак.**

**Чакаецца прыбыццё ў Мінск медыцынскага канвою з Германіі з грузам коштам 1,7 мільёна марак.**

**У сваім пісьме С.Шушкевічу пан Шноар падкрэсліў, што разам з гуманітарнай дапамогай нашай рэспубліцы ўрад федэральнай зямлі разглядае і прапанову аб мэтавых інвестыцыях у Беларусь для развіцця на яе тэрыторыі фармацэўтычнай вытворчасці.**

*ХЭПІ ЭНД*

## 500 МІЛЬЁНАЎ НА НАВАГОДНІЯ ПАДАРУНКІ

**Для арганізацыі ў час зімовых школьных канікул вясёлых, з падарункамі і прадстаўленнямі навагодніх свят урадам рэспублікі выдзелена 500 мільёнаў рублёў са сродкаў, прадугледжаных на аздараўленне насельніцтва.**

**У сувязі з гэтым прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прапанаваў фонду "Здароўе" пералічыць грошы абласным аб'яднанням прафсаюзаў для правядзення навагодніх ёлак у гарадскіх і сельскіх школах рэспублікі з уручэннем вучням 1--4-х класаў святочных падарункаў.**

# З НАДЗЕЯЙ — У НОВЫ ГОД?

**Канец года, чым бы ён ні вызначыўся, гэта непазбежна падвядзенне пэўных вынікаў. Толькі адны робяць падлікі на ўзроўні агульнай канстатацыі -- "пацяжэла" або "крыху палягчэла", у другіх іншы рахунак. Да апошніх у першую чаргу належаць людзі, якія павінны адказваць не толькі за сваё асабістае жыццё, але і ў пэўнай ступені за дабрабыт кожнага з нас -- кіраўнікі розных рангаў і, безумоўна ж, нашы выбраннікі, паўнамоцныя прадстаўнікі ў вярхоўнай уладзе -- народныя дэпутаты. Між іншым, у "дэпутацкі агарод" сёння ляціць нямала камянёў і каменьчыкаў. З якімі ж пачуццямі падымуць дэпутаты свае навагоднія кілішкі, ці ёсць у іх душы месца задавальненню ад зробленага, тым больш, што не за гарамі і канец дэпутацкіх паўнамоцтваў!**

### Народны дэпутат Беларусі, старшыня калгаса "Новае Палессе" Салігорскага раёна Павел ШКАПІЧ:

-- Наогул за тры з паловай "дэпутацкія" гады шмат чаго змянілася. Калі-нікалі нават здаецца, што чым менш ведаеш, тым лягчэй жыць. Маё рашэнне балаціравацца ў Вярхоўны Савет было няпростым і невыпадковым. Я шчыра верыў, што тут збяруцца людзі амаль ідэальныя, асобы кампетэнтныя і крыштальна сумленныя, якіх клапоціць у першую чаргу лёс нашай дзяржавы. Мая любімая песня і на сёння -- "жила бы страна родная". Так імкнуўся і свой калектыў вучыць, і дзяцей выхоўваць, але, здаецца, памыляўся: усё атрымліваецца наадварот. Вельмі шкада. Асабліва брыдка на душы пасля нашых апошніх парламенцкіх разбіральніцтваў, калі амаль тыдзень высвятлялі, хто колькі накраў і ці ёсць у гэтай зале наогул сумленныя людзі. Тое, што ў Беларусі буйна квітнее карупцыя, крадзеж на самым высокім узроўні -- наогул не адкрыццё, але калі такія факты чуеш, яшчэ думаеш: можа, няпраўда, перабольшанне, а тут...

Хаця я ўсё роўна лічу, што наш сённяшні Вярхоўны Савет не такі і дрэнны. Як бы там ні было, але зроблена нямала, і галоўнае, Беларусь стала самастойнай, суверэнная дзяржавай. Іншая справа, як далей мы здолеем кіраваць у новых умовах. Як народнаму дэпутату мне часта даводзіцца чуць папрокі ў свой адрас і ў адрас маіх калег. Нярэдка яны носяць агульны характар: маўляў, што вы там робіце, колькі можна пустымі разважаннямі займацца. Асабіста я практычна ўсе свае канкрэтныя абяцанні выканаў. Але незадаволенасць агульнымі вынікамі працы ў душы застаецца, і нікуды ад гэтага не схавацца: у нашым раней даволі моцным калгасе, дзе сёння працуе 450 чалавек, сярэдні заробак за лістапад склаў каля 64-х тысяч. Дзякуй Богу, людзі яшчэ трымаюць сваю гаспадарку, і кіраўніцтва калгаса імкнецца ім у гэтым усяляк дапамагчы, бо інакш проста не выжыць. Ды і закон нарэшце дазволіў мець для асабістых патрэб сялянам гектар зямлі, дагэтуль было -- не болей сарака сотак. Але раней, недзе ў 89-90 гадах, усё ж такі здавалася, што вёска ўстане з каленяў: распачалося немалое будаўніцтва, вёска "падцягвалася" да горада. Зараз усё зноў пайшло прахам. Зноў мы ў даўгах, як у шаўках, і не па сваёй віне: за пастаўленую сельгаспрадукцыю вялізныя грошы павінна нам дзяржава, нарыхтоўчыя арганізацыі. А цэны? За невялічкі рухавік, які два гады таму каштаваў 13--18 рублёў, з нас патрабуюць паўмільёна. Пра паліўны і энергетычны крызіс і казаць няма чаго. Колькі ні гаварылі, нічога не мяняецца. Даяркі сядзяць і чакаюць, калі дойдзе чарга і падключаць электрычнасць, каб кароў падаіць. І ў той жа час ехаў праз Салігорск -- на вуліцах можна было іголкі збіраць, такое там асвятленне. Ды што Салігорск, праз паўкіламетра ад нашых калгасных фермаў -- дачы гараджан. На іх зімой, вядома, амаль ніхто не жыве, тым не менш вулічнае асвятленне і там зіхаціць. Даяркі ж чакаюць...

Думаю, нашы беды яшчэ і ад таго, што мы шмат у чым апусцілі рукі, тычыцца гэта і кіраўнікоў. Яны нешта робяць, але, мабыць, не тое, што трэба. І таму кадравыя перамены проста неабходныя. Паглядзіце, ужо колькі год на слыху усё адны і тыя ж прозвішчы. У сітуацыі, калі справы няспынна пагаршаюцца, трэба выводзіць на першыя ролі іншых асоб. Я не веру, што ў Беларусі няма таленавітых спецыялістаў, здольных выцягнуць краіну з крызісу. Проста мы іх не ведаем. А змены патрэбны ва ўсім, у тым ліку і ў арганізацыі сельскай гаспадаркі. Вось гараджане абураюцца невыноснымі цэнамі на прадукты. Але ці ведаюць яны, што калгасы прадаюць прадукцыю дзяржаве па цэнах, у 4-5 разоў ніжэйшых, чым тыя, па якіх яна прадаецца ў магазінах. Цэны накручваюцца ўжо па-за межамі вёсак. Але тым не менш байкатуюцца пытанні аб"яднання сельскіх гаспадарак, парапрацоўкі і гандлю. Акцыяніраванне як першы крок -- вось што сёння патрэбна калгасам ў арганізацыйным плане. Што ж тычыцца прыватных гаспадарак, я -- "за", усе патрэбныя льготы і дапамогі трэба даць фермерам. Але сёння фермеру выжыць вельмі нялёгка, практычна немагчыма. Таму і чую ад сваіх вяскоўцаў: вазьмі спачатку асабіста ты, Павел Паўлавіч, кавалак зямлі, мы паглядзім, што ў цябе атрымаецца, тады і вырашым, ці ісці ў фермеры.

Наогул людзі стаміліся ад беспарадку, хаосу, нестабільнасці. Але калі казаць пра мяне, пра наш калгас, будзем імкнуцца не скарачаць вытворчасць: пакуль яшчэ ўсё на нешта спадзяёмся...

### Намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Алег ТРУСАЎ:

-- Пачну адразу з таго, што, на маю думку, сёлета наша дзяржава ўступіла ў паласу татальнага крызісу, палітычнага і эканамічнага. Гэты крызіс паскорыўся летам і восенню. Беларускі ж парламент ужо вычарпаў свае магчымасці, і чым хутчэй ён пойдзе на чарговыя выбары, тым лепш для народа і для нас саміх. Дарэчы, перад новымі выбарамі нялішне было б прааналізаваць вопыт Расіі: тое, што здарылася там, добры ўрок і для нас: дэмакратам неабходна не толькі актывізаваць сваю дзейнасць, але падумаць пра больш плённае супрацоўніцтва. Як я бачу, перамога ліберальна-дэмакратычнай партыі ў Расіі не пакінула абыякавымі нікога, у тым ліку і камуністаў, якія заўсёды змагаліся з фашызмам, і пра гэта не трэба забывацца. Між іншым, калі б выбары аб'явілі сёння ці заўтра, то перамогу, мне здаецца, атрымалі б менавіта камуністы.

Што тычыцца перадннавагодняга настрою, то мне, як дэпутату, ды і маім калегам радавацца няма чаго. Неабходныя прынцыповыя рашэнні, законы Вярхоўным Саветам дагэтуль так і не прынятыя. Разыходжанні ў меркаваннях ідуць не толькі з-за пэўнай розніцы ў поглядах, але і таму, што шэраг народных дэпутатаў моцна залежаць ад Саўміна і не могуць, баяцца выступаць супраць урада, які ўжо не ў стане дапамагчы краіне і людзям.

Акрамя асноўнага на сёння, дэпутацкага, у мяне ёсць яшчэ адзін немалы клопат -- работа ў сацыял-дэмакратычнай Грамадзе. Гэта партыя мае даўнюю гісторыю, сёлета ёй споўнілася 90 год, але, як вы разумееце, у рабоце Грамады, як і многіх іншых партый, быў значны перапынак. Зноў Грамада афіцыйна аформілася ў 1991 годзе, на чале яе стаў Міхась Ткачоў, асоба вядомая. Але ён заўчасна памёр, і старшынёй абралі мяне. Мы актыўна працуем і на наступных выбарах мяркуем сабраць да 10 працэнтаў галасоў, хаця выбары пройдуць хутчэй за ўсё не па партыйных спісах, а па акругах. Грамада гатова ісці на блокі з тымі дэмакрытычнымі арганізацыямі, якія будуць нам бліжэй па праграме. Але, мне здаецца, вясною выбары яшчэ не адбудуцца, хутчэй -- увосень, тым не менш рыхтавацца да іх мы ўжо пачалі.

Што тычыцца прагнозаў -- перад Новым годам яны вельмі папулярныя -- у даным выпадку палітычных прагнозаў, мне здаецца, як гэта ні сумна, наступны год будзе пікам крызісу на Беларусі: эканамічная сітуацыя яшчэ больш пагоршыцца, магчыма масавае беспрацоўе. А як гэта адбіваецца на грамадскім настроі, добра вядома. Таму я асабіста катэгарычна супраць паста прэзідэнта на даным этапе, бо ў нестабільных і неспрыяльных сацыяльных варунках на палітычную сцэну можа выскачыць такая постаць, што потым не будзем ведаць, як з гэтай сітуацыі і выблытацца, -- які-небудзь дэмагог, які ўвергне наш народ у галечу.

Што тычыцца маіх асабістых дэпутацкіх абавязацельстваў, то я, калі выбіраўся, не абяцаў адкрыць новую пральню або аўтобусны прыпынак. Я абяцаў, напрыклад, дамагацца прыярытэту беларускіх законаў над тагачаснымі агульнасаюзнымі і гэтак далей. Здарылася так, што мае абяцанні рэалізаваны на 99 працэнтаў, і фармальна я сваю праграму выканаў, але фактычна мне ад гэтага вялікай пашаны няма і задавальнення таксама, бо жыццё робіцца ўсё цяжэйшым і цяжэйшым.

### Народны дэпутат Беларусі, архітэктар Лявонцій ЗДАНЕВІЧ:

-- На жаль, мая праца ў Вярхоўным Савеце не была рэалізавана: абсалютная большасць маіх прапаноў не прымалася, як, дарэчы, і прапановы іншых калег па парламенцкай апазіцыі. Ці бянтэжыць гэта? У нейкім сэнсе так. Але ж парламенцкая трыбуна дазваляе нам звяртацца са сваёй праграмай да самай шырокай аўдыторыі -- я маю на ўвазе грамадства. Хаця павінен сказаць, часам здаецца, што найлепшае выйсце -- пакінуць працу ў Вярхоўным Савеце, дзе ўсё вырашаецца не аргументаванасцю і здаровым сэнсам, а механічным націсканнем кнопак.

Што тычыцца мяне асабіста, я не збіраюся ўдзельнічаць у будучай выбарчай кампаніі, тым больш, што грамадства наогул не стварае ўмоў для працы палітыкаў. У нас, каб цябе лічылі "нармальным" дэпутатам, трэба быць голым і галодным, каб сям'я твая заставалася ў жабрацкім стане, альбо мець доступ да дзяржаўнай кішэні, каб зрабіць нешта рэальнае для сваёй выбарчай акругі. Калі ў мяне пытаюцца, ці не засыпалі нас тут усялякімі дабротамі і я адказваю, что дэпутацкіх грошай хапае толькі на цыгарэты, а каб утрымліваць сям'ю, даводзіцца працаваць па начах, не вераць. Не вераць! Бо тады зручна апраўдваць сваю ўласную пазіцыю і паводзіны. Калі ўсе крадуць, чаму і мне з завода не знесці штонебудзь, калі ўсе кепскія, тады адсутнасць уласнай грамадзянскай пазіцыі таксама апраўдваецца. Зараз вельмі папулярнае меркаванне: я нікому не веру, таму не пайду на выбары. Ну, не пойдзеш, дык святое месца пустым не бывае! А прывілеі былі і ёсць у тых, у каго ўлада, прычым выканаўчая.

Пра якое задавальненне можна гаварыць, калі сёння з парламенцкай трыбуны абліты граззю ўсе і ўся, і, што самае брыдкае -- людзі сумленныя, а тыя, на кім ляжыць сапраўды велізарная віна, так і застаюцца беспакаранымі. Аляксандр Лукашэнка, хаця, на першы погляд, зачапіў у дакладзе ўсіх, на самай справе нічога новага не адкрыў, усё старыя, вядомыя факты. Разгляд звёўся ў выніку да "міжсабойных" разборак у дэпутацкім асяроддзі замест уважлівага і прынцыповага аналізу праблемы карумпаванасці дзяржаўных чыноўнікаў. І хаця спадар Лукашэнка выдаў мне своеасаблівую індульгенцыю, далучыўшы да нешматлікіх, на яго думку, сумленных людзей у парламенце, мне далёка не радасна. Па-ранейшаму ў гэтай мутнай вадзе ловяць рыбку тыя, хто і давёў краіну, людзей да сучаснага жахлівага стану. Тут дэпутатам ставяць у віну тое, што яны не прымаюць аніякіх рашэнняў. Але, мне здаецца, непрыняцце рашэнняў, і адмоўных, і станоўчых, таксама пазіцыя, пазіцыя, скіраваная на захаванне існуючага парадку.

У некаторых цікавых асоб з дэпутацкага асяроддзя ўсе думкі заняты толькі адной праблемай -- як знішчыць сваіх патэнцыяльных праціўнікаў на новых выбарах. Відавочнае сапраўднае палітыканства. Некаторыя апошнія падзеі звязаны менавіта з гэтым.

Апазіцыя шмат чаго прадбачыла. Мы спрабавалі і спрабуем ацвярозіць камісіі, урад, выступаем сярод іншага за эканомію бюджэту, мы супраць папулісцкіх рашэнняў па льготах, бесканторольных дзяржаўных крэдытах. Але нас у выніку называюць экстрэмістамі, абвінавачваюць у неканструктыўнай працы, хаця на справе для гэтага няма аніякіх падстаў. Гэта неверагодная з'ява можа існаваць толькі на глебе вельмі нізкай палітычнай культуры грамадства. Як яе павысіць? Напэўна і апазіцыя не ўсе магчымасці выкарыстоўвае, але ж у нас і сродкаў мала, друкавацца можам амаль толькі ў "Народнай газеце". Мне здаецца, існуюць пэўныя стэрэатыпы, якія лёгка кладуцца на глебу беларускай ментальнасці. БНФ і камуністаў часта разводзяць на крайнія пазіцыі, але, лічу, пазіцыя БНФ -- па сутнасці цэнтрысцкая. Галоўная ж асабістая высновa маёй працы ў Вярхоўным Савеце, што я зразумеў, можа, нават з нейкім болем: не дасі грамадству таго, што яно не просіць.

*Зразумела, кожны з дэпутатаў характарызуе стан спраў больш з пазіцыі ўласнага вопыту. Якая ж складваецца агульная карціна грамадскага настрою? Стварыць яе дапамогуць сацыёлагі.*

### Кіраўнік беларускай службы "Грамадская думка" Давід РОТМАН:

-- Набліжаецца самае радаснае свята -- Новы год, але настрой у грамадстве назваць святочным нельга. Менавіта пра гэта гавораць нашы штомесячныя апытанні. І ў першую чаргу практычна кожнага чалавека вельмі непакоіць уласны матэрыяльны стан, дынаміку пагаршэння якога мы прасочваем ужо на працягу паўтара года. І вось што атрымліваецца: у ліпені 92-га пра тое, што грошай не хапае, гаварылі прыкладна 66,8 працэнта апытаных, у кастрычніку таго ж года -- 69,7, сёлета ў сакавіку -- 71,8, у чэрвені -- 73,1, а ў снежні -- 73,9 працэнта рэспандэнтаў. Разам з тым да пэўнага часу павялічвалася колькасць людзей, якія лічылі, што іх матэрыяльны стан палепшыўся. Гэтая тэндэнцыя назіралася ад ліпеня 92-га года да ліпеня 93-га і выглядала наступным чынам: рост ад 4,8 да 12,4 працэнта апытаных. Пасля ж ліпеня раптоўнае падзенне паказчыкаў -- у снежні толькі 5,2 працэнта лічылі, што стала лягчэй. Такое своеасаблівае пераліванне і ў адзін бок, і ў другі адбывалася за кошт тых, хто вызначаў свой матэрыяльны стан як нязменны. Апошнія лічбы сведчаць, што недзе з лета эканамічны крызіс набыў новую вастрыню, і ў яго вір трапілі нават тыя, хто дагэтуль даволі паспяхова трымаўся на паверхні. Наогул ідзе выразны працэс распластавання грамадства, што, з аднаго боку, заканамерна, бо грамадства кіруецца ў рыначную эканоміку, але разам з тым пастаяннае павелічэнне колькасці людзей, жыццё якіх толькі пагаршаецца, пагражае дзяржаве самымі нечаканымі выбухамі і непрадказальнымі катаклізмамі.

Трэба адзначыць, што на сённяшні дзень апытанні паказваюць, што агульны настрой грамадства на Беларусі даволі спакойны. І гэта пры тым, што негатыўна ацэньваюцца органы ўлады і нават вельмі негатыўна -- партыі і розныя рухі (дарэчы, толькі 9-10 працэнтаў падтрымліваюць новыя партыі і арганізацыі). Можна паглядзець (адно з апошніх) размеркаванне адказаў на пытанне: "Калі сітуацыя ў рэспубліцы будзе пагаршацца, то як вы будзеце сябе паводзіць?". Невялікая колькасць людзей (іх таксама значна паменшала за апошні час), прыкладна 22-23 працэнты, мяркуюць самастойна шукаць шляхі паляпшэння свайго жыцця. У чэрвені адпаведная лічба была 35 працэнтаў. І гэта трывожная з'ява. Калі чалавек, няхай у нечым і расчараваны, але гатовы дзейнічаць, нешта прадпрымаць, яго паводзіны будуць больш стрыманымі і разважлівымі, чым у таго, які на ўсё махнуў рукой. На жаль, сітуацыя ў нас, як бачым, разгортваецца так, што, калі б на Беларусі з'явіўся лідэр накшталт Жырыноўскага ў Расіі, не выключана, што ён атрымаў бы ўсё. Але вернемся да лічбаў. "Стану ўдзельнікам забастовак" -- лічба пастаянна вагаецца каля трох працэнтаў, "далучуся да арганізацыі, якая дамагаецца змены ўлады ўзброеным шляхам" -- таксама ў межах трох працэнтаў, хаця гэта і нямала. За змену ўлады праз выбары выказваецца 7-8 працэнтаў. Карацей, на агульным фоне людзі, якія гатовы праявіць нейкую палітычную актыўнасць, канструктыўную ці не канструктыўную, складаюць меншасць, прыкладна 15 працэнтаў. Столькі ж згодны цярпліва чакаць. Канфармісцкі настроеных асоб каля 20 працэнтаў. Але разам з тым пераважная большасць -- 60 працэнтаў апытаных -- лічаць неабходнымі датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савета. Вось такая карціна і складаецца з атрыманых лічбаў. Вывады чытачы няхай робяць самі.

**Матэрыялы падрыхтавала Галіна УЛІЦЁНАК.**

## З ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ

# БНР, БЦР — АДЫХОДЗЯЦЬ У ГІСТОРЫЮ

Ці магчыма сказаць, што беларуская эміграцыя пасля заканчэння другой сусветнай вайны была палітычна аб'яднаная? Ці магчыма сказаць, што ў нашай "хатачцы" парадак ішоў?

У часе нямецкай акупацыі беларускія нацыянальныя дзеячы атрымалі права адкрыць свае школы. Пры школах арганізавалі беларускія нацыянальныя камітэты для ажыццяўлення беларускай культуры, традыцый і звычаяў і для правядзення беларускіх нацыянальных свят. Зарганізавалі БНС, СБМ, змабілізавалі маладых жыхароў вёсак, мястэчак і гарадоў у БКА, зрабіўшы дагавор з нямецкімі ўладамі, што БКА не будзе паслана на ўсходні фронт супраць бальшавікоў, а будзе служыць на беларускай тэрыторыі ў абароне свайго насельніцтва ад нападаў і грабяжоў савецкіх партызан. Беларускія нацыянальныя дзеячы атрымалі права на арганізацыю свае дзяржаўнай установы БЦР, якую ўзначаліў прэзідэнт Астроўскі. Усе разам узяліся за адраджэнне свае нацыі, амаль задушанай савецкімі камуністамі. Шмат было добрага зроблена беларусамі, нягледзячы на нямецкую акупацыю. Аднак трэба сказаць, што ярмо, накінутае на беларускі народ акупантамі, муляла шыю. Беларускія нацыянальныя дзеячы дамагаліся ад немцаў права на скліканне II Усебеларускага кангрэса. Немцы не згаджаліся. Пасля, аднак, бачачы, што вайну прайгралі, а Чырвоная Армія набліжаецца да сталіцы Беларусі, Мінска, далі згоду склікаць II Усебеларускі кангрэс. Часу на гэта было мала, аднак беларускія нацыянальныя дзеячы змаглі ў канцы чэрвеня месяца 1944 года склікаць кангрэс і зацвердзіць пастановы I кангрэса. Выбралі Беларускую Цэнтральную Раду на чале з прэзідэнтам Астроўскім. Забавязаліся весці змаганне за незалежную Беларусь.

Пасля заканчэння кангрэса БЦР і яе прэзідэнт, а з імі і дэлегаты кангрэса садзіліся проста ў цягнікі і ехалі ў Нямеччыну, бо за імі ішла смерць -- савецкія камуністы. Гэтая доля чакала тых беларусаў, якія бралі ўдзел у змаганні з камуністамі за сваю незалежнасць.

Вайна закончылася. Здавалася, што нашы нацыянальныя дзеячы будуць разам будаваць "Беларускую хатку" і арганізоўваць супольны Беларускі Палітычны Цэнтр на эміграцыі. Так не сталася. Супачыўшы ў Нямеччыне ў абозах ДП (для перамешчаных асоб), падзяліліся яны на дзве групы -- "заслужаных" і "вінаватых". "Заслужаныя" на каленях перад Богам цвярдзілі, што нічога супольнага не мелі з немцамі і з БЦР Астроўскага, а толькі вялі перагаворы з польскай АК у справе "крэсаў усходніх". Перагаворы перарваліся, бо "заслужаныя" моцна стаялі на "нацыянальных нагах" і дамагаліся ад палякаў дазволу на арганізацыю чатырох беларускіх гімназіяў у Заходняй Беларусі, а палякі давалі толькі тры. На каленях кляліся перад Богам, што прызнаюць БЦР і Астроўскага толькі як ваенных злачынцаў. А што яны "заслужаныя", працавалі ў кабінетах Астроўскага, не азначала нічога дрэннага.

"Заслужаныя" пад страхам, каб не судзілі іх як ваенных злачынцаў, залажылі на эміграцыі БНР і пачалі ліць памыі на сваіх сяброў, з якімі разам працавалі ў БНС, БЦР, БКП і займалі высокія пасады. Знайшлі новага прэзідэнта, аб якім сказалі, што мае "мандат" ад старога. Сказалі, што новы прэзідэнт не супрацоўнічаў з немцамі, а толькі выдаваў у Берліне газету "Раніца". Ніколі не быў на Беларусі, аднак арганізаваў партызанскі рух, які змагаўся з савецкімі партызанамі і польскай АК ды немцамі.

Мала гэтага, што падзяліліся паміж сабою палітычна, але і паводле канфесіяў. "Заслужаныя" з БНР у сваёй газеце "Бацькаўшчына", якую фундаваў Ватыкан, заяўлялі, што да 1772 года беларускі народ быў веры каталіцкай і уніяцкай, таму яны БНР-аўцы не хочуць нічога мець супольнага з праваслаўнымі і іхнімі япіскапамі ў залатых шапках. З усяго можна сказаць, што цягаліся за валасы, за нацыянальна-палітычныя і рэлігійныя справы. БЦР і БНР апынуліся ў ЗША. БЦР пастанавіла злажыць просьбу ў Белы дом, каб прызналі яе за беларускі экзыльны ўрад. Адказ атрымалі: "Мы не можам прызнаць БЦР за беларускі ўрад на эміграцыі, а лічым БЦР як беларускую арганізацыю". Гэтаму пазайздросціла БНР і следам звярнулася з просьбай, каб Белы дом прызнаў БНР за экзыльны беларускі ўрад на эміграцыі. І дапісалі яшчэ, што БЦР не можа быць прызнана за беларускі экзыльны ўрад, бо яна была вызначана нямецкім камісарам Беларусі генералам СС Готбергам, а сябры яе ёсць ваеннымі злачынцамі. Але і БНР атрымала адказ, што не можа быць прызнана ўрадам на эміграцыі, а толькі беларускай арганізацыяй на эміграцыі.

У 1991 годзе разваліўся Савецкі Саюз, а з ім і камунізм. БЦР спыніла сваю працу. БНР яшчэ крыху шуміць. Не хоча сказаць, што памірае.

На старонках "ГР" прыйшлося чытаць, што нейкія 43 вучоныя прапануюць выкрасліць з гісторыі пачатак арганізацыі беларускай дзяржаўнасці БНР у 1918 годзе. Выкрасліць Акт 25-га сакавіка 1918 года. Ніхто не мае права выкінуць з гісторыі пачатак арганізацыі беларускай дзяржаўнасці -- БНР 1918 года. Акт 25 сакавіка ніхто не мае права выкінуць з гісторыі. Ніхто не мае таксама права выкідваць БЦР з гісторыі беларускага вызвольнага руху на Бацькаўшчыне за часоў нямецкай акупацыі Беларусі і яе дзейнасці на эміграцыі. Ніхто не мае права выкрасліць з нашай гісторыі і БССР і яе дзейнасць на Бацькаўшчыне. Калі ж мы будзем выкідваць ды выкрэсліваць усе падзеі, звязаныя з гістарычнымі рухамі на Бацькаўшчыне і на эміграцыі ды паклікацца толькі на партызанскі рух (як гэта некаторыя паўдуркі ўжо практыкуюць), дык нашая гісторыя не будзе цікавай ні нашым унукам, ні праўнукам. Мы не маем права маўчаць пра тое, што дзеялася на Бацькаўшчыне за часоў сталіншчыны, польскай ды нямецкай акупацыяў.

Калі ж мы маем Рэспубліку Беларусь, хаця яна не ёсць сёння беларускай і не ёсць незалежнай, пажадана было б, каб арганізацыі БЦР і БНР на эміграцыі падалі сабе рукі адно аднаму і выпілі б па чарцы. Як БНР, так і БЦР палітычныя арганізацыі, якія яшчэ не спынілі дзейнасці на эміграцыі, яны павінны сачыць за сённяшнімі палітычнымі падзеямі на Бацькаўшчыне, бо ўчарашняга дня камуністы, паміраючы, яшчэ кідаюць абразлівыя словы ў нашым напрамку.

**С. ШЧЭРБА.**

Англія.

# МЫ ПАМЯТАЕМ УСЁ

У той час, калі беларускі народ гоіць яшчэ свежыя раны, нанесеныя ленінска-сталінскім рэжымам, калі не так даўнія падзеі ў Маскве гавораць, што ў рэшце рэшт Ільіч зойме сваё пачэснае месца сярод сваіх ахвяр, а яго верныя апосталы пад ключамі на Лубянцы, у нас на Беларусі яшчэ ёсць людзі, якія хочуць надалей біць яму паклоны і ўзнагароды з яго выявай лічаць вялікім гонарам і дасягненнем... 1947--1950 гады былі найбольш горкімі, жахлівымі ў пасляваеннай гісторыі беларускага народа. Расстрэльвалі, судзілі, высылалі на катаргу ў далёкую Сібір і на Калыму не толькі тых, хто быў у паліцыі, БКА, СБМ, але і іх крэўных, бацькоў, братоў і сясцёр. Судзілі тых, хто вучыўся ў беларускіх гімназіях, дырэктараў і настаўнікаў. Судзілі тых, хто прымусам быў вывезены на работу ў Нямеччыну і пасля вайны паддаўся камуністычнай прапагандзе і вярнуўся дамоў. Нават судзілі сваіх палонных чырвонаармейцаў, якія добраахвотна вярнуліся ў нібыта новую перамогшую дзяржаву.

Мы таксама добра памятаем, каго і якім спосабам выбіралі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, -- стаханаўцаў, даярак і свінарак, якія былі патрэбны Вярхоўнаму Савету толькі на тое, каб падлічыць, колькі паднятых рук "за". Тут патрэбны былі спецыяльна трэніраваныя, выпрабаваныя Масквою людзі, якія слепа верылі догме камунізму і ў імя гэтых ідэалаў і іх правадыроў былі гатовы прадаць у палон, пад расстрэл ці на далёкую ссылку ў Сібір не толькі сваіх сяброў (часта саміх камісараў), але сваіх бацьку і матку -- за што атрымоўвалі званне Героя Савецкага Саюза і, безумоўна, медаль Леніна: Масква на гэта не была скупой. І здавалася б, пасля доўгіх гадоў камуністычнай маны беларускі народ хацеў бы пазбыцца так званых дзеячаў БССР і разам з імі так скрыўленай, перавялічанай ролі, якую адыгралі партызаны ў вызваленні Беларусі. Але дзе там... У N 27 "ГР" за 8-га ліпеня пад загалоўкам "Неразгаданая тайна" зноў мо ў соты раз мы чытаем аб гераічнасці гэтых барацьбітоў, якія з'язджаліся ў сталіцу Беларусі, каб адзначыць дзень яе вызвалення. І наш Вярхоўны Савет вітае іх з адкрытымі рукамі, хлебам і соллю. Але вечарыну, якую крыху раней меркавалі правесці студэнты ў тэатры Я.Купалы, прысвечаную 50-м угодкам Саюза Беларускай Моладзі, Вярхоўны Савет Беларусі не дазволіў "адпаведным распараджэннем", падпісаным не кім іншым, як прэм'ер-міністрам В.Кебічам!.. Але ці хоць адзін з прысутных на гэтым зборышчы падумаў або спытаўся хоць бы самога сябе (каб разгадаць хоць адну тайну): калі ж партызаны змагаліся за вызваленне Беларусі, за яе сапраўдную незалежнасць, за справядлівасць, за лепшую волю і долю беларускага народа, дык чаму Беларусь была ў няволі аж да ліпеня 1991 года? Для нас, беларусаў далёкага замежжа, а таксама беларусаў на Бацькаўшчыне, якія гнілі ў падвалах Лубянкі ці ссылках далёкай Сібіры і толькі марылі і снілі аб незалежнай Беларусі, розніцы паміж гітлераўскімі гіцалямі і маскоўскімі апрычнікамі не было і няма.

**А.ГІЛЯРЧЫК.**

Англія.

## *НАВАГОДНІЯ ПАШТОЎКІ*



**Цешуся, што Беларусь цяпер -- вольная дзяржава і не павінна нікому кланяцца. Хай новы год прынясе ёй і беларускаму народу спакой і лепшае жыццё!**

**Дарагія супрацоўнікі газеты! Ад 2-х гадоў я перастаў атрымліваць "Голас Радзімы". А я па-ранейшаму хачу ведаць, што дзеецца на радзіме. Ужо як-небудзь паклапаціцеся, каб я зноў меў "Голас Радзімы". Буду вам вельмі ўдзячны.**

**Міхаіл МАДОРНЫ.**

Германія.

**Віншую дружны калектыў тыднёвіка "Голас Радзімы" з Калядамі і Новым, 1994 годам! Жадаю ўсім моцнага здароўя, шчасця ў вашых сем"ях, поспехаў ва ўсіх справах.**

**Ваш сталы чытач**
**Пятрусь КАПЧЫК.**

Украіна.

**Сардэчна віншую калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" з Новым, 1994 годам!**

**Жадаю далейшых творчых поспехаў, здароўя і шчасця!**

**Сёння, як ніколі, цяжка быць аптымістам, але я жадаю Беларусі лепшых часоў і веру, што яны настануць.**

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

**Навагодняе прывітанне з Італіі!**

**Ці чуваць у вас, каб што ішло да лепшага? Ці буду я атрымліваць добрыя навіны з Беларусі ў 1994 годзе? А так хацелася б, каб на маёй радзіме быў лад і дабрабыт.**

**Жадаю вам усім моцнага здароўя і добрай работы, што прыносіць карысць усім людзям.**

**Хай жыве ў радасці Беларусь!**

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

**Шаноўныя супрацоўнікі "Голасу Радзімы", віншую вас са святамі Нараджэння Хрыстова і з Новым годам!**

**Дзякую за газету, якую атрымліваю кожны тыдзень. Высылаю чэк на 50 долараў для аплаты падпіскі на 1994 год. Хачу і надалей чытаць "Голас Радзімы".**

**Высылаю яшчэ адзін чэк на такую ж суму, яго ахвярую ў фонд для дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.**

**Зычу рэдакцыі поспехаў у рабоце, а ўсім беларусам -- шчаслівага і мірнага новага, 1994 года.**

**Таццяна КУЦ.**

Канада.

**Паважаную рэдакцыю "Голасу Радзімы", яе рэдактара і ўсіх супрацоўнікаў шчыра віншую з Нараджэннем Хрыстовым і надыходзячым Новым годам. Добрага вам здароўя і вялікага плёну ў працы!**

# "ЛЁСАМ ПАДАРАВАНАЯ СУСТРЭЧА"

Памятаю святкаванне 113-й гадавіны з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч (Цёткі), аб жыцці паэткі распавядаў Мікола Рулінскі, чытаў яе вершы. Тады я бачыла гэтага цікавага чалавека ўпершыню. І пасля, на ўсіх пасяджэннях аматараў беларускай творчасці "Сябрына", актыўным удзельнікам яе застаецца Мікалай Рулінскі.

Цяпер шмат пішуць пра дабрыню, пра інтэлігентнасць, не ведаючы, можа, што гэта такое. М.Рулінскі скончыў Віленскую беларускую гімназію да вайны, добра ведае літаратуру, валодае некалькімі мовамі, збярог беларускія выданні, ("Шлях моладзі"), якія выходзілі да вайны ў Вільні. Ён заўсёды вельмі шчыра дзеліцца ўспамінамі і ведамі. Лёс па ўсяму свету раскідаў былых гімназістаў, але да гэтага часу падтрымліваюць яны сувязь. Такой дружбе можна толькі пазайздросціць.

Нялёгкі лёс у Мікалая Рулінскага: быў у сталінскіх лагерах, у гады Вялікай Айчыннай вайны таксама шмат пакутаваў і ўсё за сваю беларускую свядомасць. Але нішто не змагло зламаць гэтага чалавека, бо ён быў упэўнены ў сваёй справе, ім валодала любоў да Бацькаўшчыны.

Хоць М.Рулінскі да гэтага часу не рэабілітаваны, але захаваў дабрыню, ні на кога не крыўдзіцца. Цікава выконвае беларускія песні, сам піша вершы, малюе краявіды і заўсёды радуецца гасцям. А гасцей бывае ў яго шмат: і віленскія беларусы, і госці з Мінска, Маладзечна, музея М.Багдановіча, дзе знаходзяцца экспанаты, перададзеныя М.Рулінскім. Бываць у яго ў хаце вельмі прыемна, бо, здаецца, дакранаешся да чагосьці роднага. Асабліва ў наш нялёгкі час патрэбны такія сустрэчы. І хоць М.Рулінскаму мінула 70 гадоў, гэта не ўзрост для творчага чалавека.

Вось такія беларусы жывуць у Вільні. Я напісала толькі пра аднаго.

**Леакадзія МІЛОШ.**

Вільня.

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# БНР — БССР — РБ,

## або ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне прымала ўдзел у прэзідэнцкіх і іншых выбарчых кампаніях, усё больш урастаючы ў палітычную сістэму ЗША. Барацьба за галасы імігрантаў, што сталі грамадзянамі ЗША, прымусіла вядучыя амерыканскія палітычныя партыі шукаць падтрымкі і сярод гэтай часткі насельніцтва краіны. Гэта давала магчымасць аб"яднанню выстаўляць свае "сустрэчныя" патрабаванні да амерыканскіх улад, якія тычацца Беларусі.

Управа БАЗА выконвала ролю каардынатара дзейнасці іншых беларускіх арганізацый у ЗША, мела дачыненне да выдання газет, кніг, радыёперадач, царкоўных спраў і інш. Аб"яднанне брала пад сваю эгіду правядзенне юбілеяў БНР і іншых святаў, наладжвала перыядычныя сустрэчы беларусаў ЗША і Канады.

Пэўную грамадскую вагу меў Беларускі Кангрэсавы Камітэт, які перыядычна збіраў з"езды, выдаваў часопіс "Беларуская думка".

Сутнасць той ці іншай арганізацыі, яе мэты, стратэгія і тактыка ў рэшце рэшт выяўляюцца ў канкрэтнай дзейнасці. "Халодная вайна", нябачаная гонка ўзбраенняў, няспынныя лакальныя канфлікты, за якімі нязменна стаялі звышдзяржавы, -- усё гэта непасрэдна адбівалася на паводзінах палітычных груп і асоб, якія прэтэндавалі на фарміраванне настрою беларускай дыяспары. Беларускія арганізацыі, варожыя камунізму, якія не прызнавалі БССР як дзяржаву, занялі сваё месца ў барацьбе звышдзяржаў. Небывалы размах і напал атрымала ідэалагічнае супрацьстаянне, узаемнае выкрыццё грамадскіх асноў і ладу жыцця.

Адным з важнейшых накірункаў у сферы амерыканскіх прапагандысцкіх намаганняў было развянчанне савецкай федэратыўнай структуры і нацыянальнай палітыкі ў СССР. Паняцці "савецкая імперыя", "імперыя зла", "савецкі каланіялізм", "савецкія калоніі" трывала ўвайшлі ў арсенал ідэалагічных сродкаў барацьбы. Слова "імперыя" ўжывалася ў двух сэнсах: шырокім і вузкім. У першым выпадку меўся на ўвазе Савецкі Саюз з яго саюзнікамі, у другім -- толькі СССР, "метраполія сусветнага камунізму".

Зрэшты, у ходзе грамадскага абнаўлення, якое пачалося ў СССР, паняцце "савецкая імперыя" лёгка ўвайшло ў слоўнік апазіцыйных КПСС партый. Адна з прычын -- вельмі ўжо зручная зыходная пазіцыя для абгрунтавання непазбежнасці распаду СССР. Пры гэтым не патрабуецца якіх-небудзь сур"ёзных доказаў, хапае аналогій: распаліся Брытанская, Французская і іншыя поліэтнічныя дзяржавы. Такога ж лёсу не пазбегнуць і шматнацыянальнаму СССР, тым больш, што ён уяўляў сабой "ухудшенное издание империи". ("Известия", 1993, 21 верасня). Бо згодна гістарычнаму вопыту, імперыя -- гэта максімальны цэнтралізм ва ўпраўленні, насільнае ўтрыманне народаў у рамках адзінага цэлага, панаванне метраполій над нацыянальнымі рэгіёнамі, ператварэнне іх у сыравінныя прыдаткі, гандаль рабамі, падаўленне праяў вызваленчага руху, штучна падтрымліваемая культурная адсталасць калоній і г.д. "Імперыя" -- і гэтым усё сказана!

Жорсткасць, бескампраміснасць ідэалагічнай барацьбы вызначылі метады яе вядзення: празмерныя эмоцыі, скажэнне фактаў, апалагетыка, лаянка, спрашчэнне, схематызм і г.д. Сапраўды, на вайне як на вайне!

Некаторыя цяперашнія палітыкі асабліва ганарацца тым, што ўнеслі свой "сціплы" ўклад у разбурэнне савецкай імперыі. Але ці ёсць прычына для такога гонару? Сам па сабе факт распаду звышдзяржавы непасрэдна нарадзіў катастрафічныя вынікі ў эканоміцы, ва ўзаемаадносінах народаў былога СССР. З-пад абломкаў "імперыі" не можа выбрацца эканамічна магутная суверэнная Украіна. Што ўжо гаварыць пра Беларусь, вельмі інтэграваную ў агульнасаюзную эканоміку. Дайшло да таго, што Украіна і Беларусь звярнуліся ў ААН, каб міжнароднае супольніцтва перавяло іх у групу эканамічна менш развітых дзяржаў. Матыў: нашы краіны перажываюць эканамічны крызіс.

Працяг.
Пачатак у №№ 47--51.

Беларускія эміграцкія арганізацыі ўліліся ў агульную плынь змагароў з камунізмам. Адным з галоўных клопатаў Рады БНР і арганізацый, што супрацоўнічалі з ёю, было правядзенне святкавання Дня абвяшчэння незалежнасці БНР, асабліва "круглых дат". Сталіся традыцыйнымі вулічныя шэсці, радыё- і тэлевыступленні, пасяджэнні з прамовамі і чытаннем рэфератаў (акадэміі), прыёмы, банкеты, канцэрты, малебны і іншае. Аб гэтым якраз хацелася б сказаць падрабязней, бо шырокаму колу чытачоў такія "дэталі" невядомыя.

Да ўдзелу ва ўрачыстасцях актыўна падключыліся ўлады ЗША, якія ў розных формах выказвалі маральна-палітычную падтрымку іх ініцыятарам. Не выпадкова гэтаму пытанню ў сваіх мемуарах так шмат увагі ўдзяліў К.Мерляк. "Падрыхтоўка адзначэння 40-х угодкаў Незалежнасці Беларусі, -- піша ён, -- пачалася яшчэ ў восені 1957 года і праводзілася інтэнсіўна на працягу 3 месяцаў". (Там жа, с.154). Беларускіх прадстаўнікоў прыняў віцэ-прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан. Перад адкрыццём пасяджэння амерыканскага сената архіепіскап Васіль прачытаў малітву за пакутніцу Беларусь. У Кангрэсе ЗША з прычыны юбілею з прамовамі выступілі 18 сенатараў і кангрэсменаў. Прайшлі богаслужэнні. У адным з гатэлей Нью-Йорка адбылася ўрачыстая акадэмія з выступленнямі прэзідэнта Рады БНР М.Абрамчыка, афіцыйных асоб, прадстаўнікоў навукі. "Акадэмія была ўшанавана 6-мі япіскапамі і 44-мя прадстаўнікамі амэрыканскіх афіцыйных установ і прадстаўнікамі нацыянальных арганізацыяў Амэрыкі", -- адзначае К.Мерляк. Было атрымана больш за сто прывітанняў і пісем ад палітычных дзеячаў, іншаземных арганізацый і пасольстваў. Урачыстае пасяджэнне акадэміі закончылася спевамі беларускага гімна. (Там жа, с.155).

На юбілейныя падзеі адгукнуліся друкаваныя органы. І сярод іх такая салідная газета, як "Нью-Йорк Таймс".

З выпадку 42-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР (1960 г.) у Кангрэсе ЗША выступілі каля дваццаці сенатараў і кангрэсменаў. Прамовы заканадаўцаў былі апублікаваны асобным выданнем і разасланы бібліятэкам, газетным выдавецтвам, розным установам, "амерыканскаму ўплывоваму грамадству". Прэзідэнт ЗША Дуайт Эйзенхаўэр падараваў беларускаму грамадскаму цэнтру свой партрэт з аўтографам. Даслалі свае прывітанні кіраўнікі рэспубліканскай і дэмакратычнай партый, міністры. Паступілі прывітанні і пісьмы ад многіх замежных пасольстваў у Вашынгтоне, ад амерыканскіх арганізацый, кангрэсменаў, губернатараў. У асобных штатах 25 сакавіка аб"яўлялася "Беларускім днём незалежнасці". Як бачым, святкаванне вылівалася ў маштабныя палітыка-прапагандысцкія акцыі.

Адзначалася гадавіна Другога ўсебеларускага кангрэса (27 чэрвеня) і Слуцкага паўстання. (Там жа, с.311-313). Але тут ініцыятыва належала прыхільнікам БЦР. Дуалізм палітычнага прадстаўніцтва (дзве рады) адбіўся і на палітычнай арыентацыі арганізацый беларускай дыяспары ў Амерыцы. Раз"яднанне было такім глыбокім, што нават святая святых -- дата 25 сакавіка -- адзначалася часам асобна прыхільнікамі БНР і прыхільнікамі БЦР.

У ЗША праводзілася работа па аб"яднанню этнічных нацыянальных іміграцкіх груп у адзіную арганізацыю з мэтай "уплыву" на знешнюю палітыку ЗША і перш за ўсё "на палітыку вызвалення народаў з-пад савецкага панавання". (Там жа, с.162).

У актывізацыі дзейнасці эміграцкіх арганізацый важную ролю павінна было адыграць рашэнне Кангрэса ЗША аб абвяшчэнні, пачынаючы з 1959 года, трэцяга тыдня ліпеня "Тыднем прыгнечаных народаў" у якасці акцыі агульнадзяржаўнага ўзроўню. У спісе прыгнечаных камунізмам народаў, а іх больш за 20, лічылася і Беларусь. Уласна Расія не ўключалася ў гэты спіс, як метраполія імперыі. Тыдні суправаджаліся адлаведнымі прапагандысцкімі і іншымі мерапрыемствамі. Першы Тыдзень па прадпісанню амерыканскага прэзідэнта пачаўся 19 ліпеня 1959 года.

Але час ідзе. Інтэграцыйныя працэсы раствараюць эміграцыю ў агульнай масе насельніцтва ЗША. У выніку натуральных прычын звужаецца кола старэйшага пакалення. Новыя пакаленні ўспрымаюць палітычны настрой дзядоў і бацькоў па-свойму. Забываецца і родная мова.

Амаль паўстагоддзя арганізацыі беларускіх эмігрантаў проціпастаўлялі сябе палітычнаму рэжыму на радзіме. Змяняліся міжнародныя абставіны, зніжаўся і зноў нарастаў напал барацьбы. Адны лозунгі змянялі іншыя: знішчэнне камунізму, адкіданне камунізму, стрымліванне камунізму. У 70-я гады з"явіўся лозунг дэкаланізацыі СССР. Гэта ўжо ідэя развалу СССР як магчымы варыянт развіцця падзей.

ЗША прызнавалі БССР як члена-заснавальніка ААН, суб"екта міжнароднага права і ў той жа час дапускалі і заахвочвалі арганізацыі, якія не прызнавалі БССР як дзяржаву, лічылі яе бяспраўнай часткай савецкай імперыі. І ўсё ж амерыканскай адміністрацыі, асабліва Дзярждэпартаменту, даводзілася праяўляць асцярожнасць, вызначаючы стыль сваіх адносін з беларускімі радамі. Падтрыманне кантактаў з Радай БНР ці БЦР на дыпламатычным узроўні азначала б парушэнне міжнароднага права і міжнароднай маралі. Пацяпленне міжнароднага клімату, а затым спыненне з распадам СССР "халоднай вайны" паставілі беларускія арганізацыі за мяжой перад неабходнасцю карэннай пераарыенціроўкі сваёй дзейнасці. Перш за ўсё паўстала пытанне аб адносінах да Рэспублікі Беларусь, дзе адраджаюцца і прапагандуюцца ідэалы, за якія якраз і змагаліся беларускія рады. У сваю чаргу па ініцыятыве грамадскіх структур рэспублікі і па лініі дзяржаўнай наладжваюцца і пашыраюцца кантакты з беларускай дыяспарай. Стала магчымым нарэшце скліканне Першага з"езда беларусаў свету, які адбыўся ў Мінску 8--10 ліпеня 1993 года.

### 10. БЕЛАРУСЫ СВЕТУ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЗЯРЖАЎНАЕ БУДАЎНІЦТВА

З'езд, адкрыты народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым, віталі Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, іншыя афіцыйныя асобы. Урад рэспублікі выдзеліў буйную суму грошай на правядзенне мерапрыемства, прадаставіў у распараджэнне з"езда будынак опернага тэатра.

Ацэнка грамадскасцю "вялікага сходу беларусаў", "усебеларускага веча" неадназначная, аб чым сведчыць, у прыватнасці, вострая дыскусія па гэтаму пытанню на старонках "Звязды". (1993, 7 верасня, 6, 27 кастрычніка). Выявілася шмат аспектаў, якія патрабуюць глыбокага аналізу. І, канешне, праблема нацыянальнай еднасці -- адна з іх.

У плане акрэсленай тэмы выключна важная для нас пазіцыя форуму, якая датычыць перспектыў развіцця нацыянальнай дзяржаўнасці. З гэтага пункту погляду асобай увагі заслугоўвае "Дэкларацыя аб прынцыпах нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва", якая выказвае адносіны з"езда да карэнных пытанняў нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння народа, прызначэння нацыянальнай дзяржаўнасці. Намеры з"езда зразумелыя: ва ўмовах кардынальных грамадскіх перамен, пераходу да новых форм палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця важна бачыць перспектыву.

Шлях, пройдзены іншымі народамі, паказаў, што незалежная суверэнная дзяржава -- дзейсны сродак нацыянальнага адраджэння і абароны нацыянальных інтарэсаў. Прынятая з"ездам дэкларацыя па дзяржаўнаму будаўніцтву якраз і арыентуе на такі варыянт развіцця дзяржаўнасці, які павінен прывесці "да жаданай свабоды, наладзіць цывілізаванае, заможнае і культурнае жыццё для сябе і сваіх нашчадкаў". Дэкларацыя аб суверэнітэце рэспублікі ад 27 ліпеня 1990 года, якая атрымала сілу канстытуцыйнага закона, разглядаецца юрыдычнай асновай для "адбудовы новай беларускай дзяржавы".

У сваіх рашэннях з"езд падкрэслівае, што рэспубліка Беларусь, як свабодная дэмакратычная дзяржава, павінна мець вышэйшай мэтай "дасягненне агульнага дабра". Расшыфроўваючы гэтае палажэнне, з"езд аддае належнае дасягненню "сацыяльнай справядлівасці ў грамадстве". Вельмі важны момант! Прагрэсіруючая маёмасная дыферэнцыяцыя, збядненне народа, якое суправаджаецца раскраданнем агульнанароднага здабытку, нястрымная спекуляцыя, культ багатага чалавека (не мае значэння, якім спосабам разбагацеў) -- усё гэта выклікае трывогу ў душах працаўнікоў.

У рэзалюцыі не ўжываецца паняцце "прававая дзяржава". І, відаць, не выпадкова. Ва ўмовах росту злачыннасці, паслаблення павагі да закона, пагаршэння ўмоў жыцця гэтае паняцце губляе арэол вышэйшай палітычнай каштоўнасці. Сапраўдная прававая дзяржава -- гэта дзяржава сацыяльнай справядлівасці.

У дасягненні пастаўленых мэтаў асобае значэнне ў дакуменце надаецца нацыянальнай свядомасці, гістарычнай памяці, разуменню беларускім народам свайго гістарычнага прызначэння і сваіх правоў.

Задача зводзіцца да таго, каб, улічваючы ўрокі мінулага, "ажыццявіць гістарычную справядлівасць і назаўсёды замацаваць незалежную Беларусь на карце Еўропы не як геаграфічнае паняцце, а як шанаваную паўнавартасную дзяржаву беларускага народа і іншых народаў, што заўжды жывуць на нашай зямлі".

Закладзеная ў прыведзеным урыўку дэкларацыі думка, што Беларусь -- агульны дом для ўсіх людзей, якія жывуць у ім, падкрэслівае раўнапраўе грамадзян незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці. Гэта ідэя, напомнім, ідзе з Канстытуцыі БССР 1978 года. Нараўне са згуртаванасцю беларусаў для трываласці дзяржавы не менш важна і з"яднанне ўсіх нацыянальных суполак дзяржавы.

З"ездам прынята рэзалюцыя са старанна распрацаванай праграмай развіцця і ўмацавання сувязей Рэспублікі Беларусь з дыяспарай.

На жаль, у дакументах з"езда няма разгорнутай ацэнкі БССР. А пытанне гэтае прынцыповае. Рэспубліка ўпамінаецца толькі адзін раз. З"езд патрабаваў "спыніць выкарыстанне гімна былой БССР у якасці дзяржаўнага гімна". З духу рэзалюцыі вынікае, што БССР -- гэта "няпоўнавартасная дзяржава".

Трэба заўважыць, што палітолагі і дзяржавазнаўцы пакуль яшчэ не разабраліся, якімі крытэрыямі вымяраць паўнавартаснасць дзяржавы. Для некаторых публіцыстаў не толькі БССР, але і Рэспубліка Беларусь -- па-ранейшаму Паўночна-Заходні край, бо вельмі ўжо эканамічна залежыць яна ад Расіі. Але эканамічная ўзаемасувязь дзяржаў і дзяржаўны суверэнітэт не тоесныя паняцці. Па Канстытуцыі СССР 1977 года БССР -- суверэнная дзяржава, якая добраахвотна перадала частку сваіх паўнамоцтваў саюзным органам. РСФСР карысталася ў Саюзе ССР не большымі правамі, чым БССР. І не выпадкова, што РСФСР адной з першых аб"явіла аб сваім суверэнітэце і нават аб перавазе рэспубліканскага закона над саюзным, надаўшы, жадаючы таго ці не жадаючы, паскарэнне цэнтрабежным сілам. Белавежскія пагадненні -- гэта адзін з этапаў распаду СССР. Да гэтага часу Украіна прагаласавала за незалежнасць. Магчыма, многія яе грамадзяне, апускаючы бюлетэні ў урну, і не здагадваліся, што галасавалі на справе за выхад з СССР. У гэтым сэнсе ёсць доля праўды ў выказванні, што "в Беловежской пуще не убивали Советский Союз и даже не хоронили -- там только выдали свидетельство о смерти" ("Известия", 1993, 21 верасня).

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

## ДОЎГІЯ НАТАТКІ З НАГОДЫ ВЫХАДУ МАЛЕНЬКАЙ КНІЖКІ

# У ПОШУКАХ НЯЗДЗЕЙСНЕНАГА

АХ, ЯК я плакала шмат год таму, калі глядзела фільм "Дзеці Райка", зняты па сцэнарыю французскага паэта Жака Прэвера! Чаму? Можа, таму, што ўсё ў гэтай гісторыі: ад незвычайнага твару гераіні да яе непазбежнага знікнення -- было ўвасабленнем таго Няздзейсненага, пра якое некалі напісаў рускі пісьменнік з французскім псеўданімам Грын. Памятаеце: "Рана ці позна, пад старасць ці ў росквіце гадоў Няздзейсненае кліча нас, і мы азіраемся, імкнучыся зразумець, адкуль прыляцеў покліч. Тады, апрытомнеўшы сярод свайго свету, цяжка спахапіўшыся і пачынаючы даражыць кожным днём, углядаемся мы ў жыццё, усёй існасцю імкнучыся разгледзець, ці не пачынае здзяйсняцца Няздзейсненае? Ці не ясны яго вобраз? Ці не трэба зараз толькі працягнуць руку, каб схапіць і затрымаць яго слаба мільгаючыя рысы?"

Але ж гэта -- падманлівае адчуванне, гэта толькі падаецца, што варта працягнуць руку, і Няздзейсненае пачне набываць рэальныя рысы і ў рэшце рэшт увасабляцца ў наша шэрае жыццё. Яно мімалётнае і няўлоўнае, як паэзія, як любоў, як крык прысуджанага да вечных пакут Белага клоуна ўслед сваёй Каламбіне, што збягала ад яго праз чужое свята -- карнавал, велізарнае цыркавое прадстаўленне, на якім яму не знайшлося ролі... "Гаранс! Гаранс!" -- клікаў ён жанчыну, што назаўсёды гублялася, знікала ў шумным натоўпе. З такім адчаем просяць вярнуцца толькі тады, калі дакладна ведаюць, што гэтага ўжо ніколі не будзе. І імя... Гэтае імя не можа належаць жанчыне. Гэта імя экзатычнай птушкі з яркім і вычварным апярэннем. Можа, той самай, пра якую пазней сам Жак Прэвер напісаў верш "Каб намаляваць партрэт птушкі"? Я толькі што прачытала яго ў зборніку перакладаў "З французскай і бельгійскай паэзіі", якія зрабіла паэтэса Эдзі Агняцвет.

Шмат гадоў гэтае дзіўнае пачуццё не наведвала душу, а зараз зноў ускалыхнуў яе покліч няздзейсненага, прымусіў азірнуцца навокал і ўспомніць старую ісціну, што чалавек можа абысціся без неабходнага і не пражыве без лішняга. Неабходнае -- вада і хлеб, без іх гіне цела. Лішняе -- паэзія, без яе мярцвее душа, і жыццё цела наўрад ці тады будзе мець сэнс.

**Тры запалкі запальваю**
**ноччу --**
**адну за другой.**
**Першая -- бачыць хачу**
**твае рысы поўнасцю,**
**Другая -- каб вочы**
**ўбачыць твае,**
**Апошняя --**
**каб вусны ўбачыць твае.**
**І, цябе абдымаючы,**
**помніць аб гэтым.**
**Пад небам начным,**
**беспрасветным...**
Паэзія -- хлеб душы.

**Я пайшоў на птушыны кірмаш**
**і птушак купіў**
**для цябе,**
**Каханая.**

Зразумець, што такое каханне, можна толькі тады, калі гэтае пачуццё пакідае цябе.

**Я на кветкавы рынак пайшоў**
**і ружы купіў**
**для цябе,**
**Каханая.**

Каханне як наркотык, залежнасці ад якога хочацца пазбавіцца любой цаной, але калі гэта нават і атрымаецца, ніколі ўжо не ўдасца спаліць у памяці ўспамін аб асалодзе гэтых пакут, і нават праз дзесяткі гадоў падсвядомасць будзе імкнуцца да іх зноў і зноў.

**Я на рынак старых жалязякаў**
**пайшоў**
**і купіў я ланцуг,**
**самы цяжкі ланцуг,**
**для цябе,**
**Каханая.**

Спрабаваць разлюбіць, стаміўшыся ад пакут няўдалага кахання, -- бессэнсоўна. Можна толькі паспрабаваць прыдаць яму іншыя формы, тварыць, удасканальваючы свае творы, адліваючы іх з адчаю і болю, з якіх, дарэчы, і складаецца сапраўдная любоў, бо калі яна шчаслівая -- гэта першая прыкмета, што ў вас нешта не так.

**Там, дзе продаж нявольніц, --**
**пабываў я пасля,**
**і цябе я шукаў,**
**ды цябе не знайшоў,**
**Каханая.**

На вокладцы французскага часопіса "Еўропа", прысвечанага Полю Элюару, які паказала мне Эдзі Агняцвет, фотаздымак двух людзей, апранутых у касцюмы белых клоунаў. Гэта вобразы, якія абралі для сябе сам паэт і яго жонка Гала, тая самая руская Алена Дзьяканава, якая, кінуўшы Элюара, стала музай вялікага Далі. Жонка з рускімі каранямі натхняла Луі Арагона, чые вершы таксама ўвайшлі ў зборнік, Вольга Казлова стала мадам Пікасо. Прысвечаны яму верш выдатна перакладзены на беларускую мову. Беларуская кроў цякла ў жылах маці Гіёма Апалінэра, хрышчонага як Вільгельм Каставіцкі. (Пераклады яго вершаў, дарэчы, адкрываюць гэтую кнігу). Не будзем імкнуцца вызначыць у нашым артыкуле месца і ролю рускіх (і беларускіх!) жанчын у гісторыі французскага мастацтва (спіс гэты можна прадоўжыць, успомніўшы хаця б Надзею Хадасевіч -- мадам Лежэ і маці Уладзіславы Францаўны, жонкі Янкі Купалы, Эмілію Манэ, якая мела прамое дачыненне да сям'і вялікага мастака). Толькі асабіста мне падаецца: немалую ролю адыгралі гэтыя жанчыны ў тым, што менавіта французскае мастацтва так дакладна адпавядае стану нашых душаў і сэрцаў. Хаця пачуцці і эмоцыі -- інтэрнацыянальныя, пачытайце хаця б верш "Песня пра Сену". Вельмі небяспечны верш, бо ў ім пануе зайздрасць. "Да каго? -- запытаецеся вы. -- Да ракі?" -- "Не", -- адкажу я. Бо Сена тут -- толькі зачэпка, а зайздросціць паэт волі, бестурботнасці і спакою. На месцы Сены мог бы апынуцца той жа Нотр-Дам, куст над ракой ці больш удачлівы сябра. Але ж асцярожней! Зайздрасць -- вельмі небяспечнае пачуццё. А раптам Бог пачуе тваю малітву і дасць табе ўсё тое, чаму зайздросціш, але ж той жа, невядомай табе пакуль цаной, што і іншаму. Хто ведае, колькі сіл каштавала спакойнай рацэ праклaсці сабе рэчышча, колькі непад'ёмных камянёў змяла са свайго шляху вада, перш чым бестурботна "да Гаўра і да мора прайшла без перашкод, як цені летуценняў: між таямніц Парыжа, сярод яго нягод..."

Вельмі часта праца перакладчыка застаецца па-за кадрам. Чытаючы мастацкі твор, мы захапляемся вострымі думкамі аўтара, дакладнымі вобразамі, дзіўным стылем і не задумваемся пра таго, хто зрабіў даступным для нас усё гэта хараство. І забываемся: каб твор па-сапраўднаму зачараваў нас, трэба "перакласці" не толькі словы, але і пачуцці, якія ў той момант валодалі паэтам, перадаць яго настрой, водар паветра, што ўліваўся ў пакой праз адчыненыя ў сад вокны, і блікі святла на стале. Калі ўдаецца такое, няма большага свята для перакладчыка і чытача, непрыкметнага свята таленавітага пасрэдніка паміж дзвюма культурамі. Дзякуючы Эдзі Агняцвет такое свята адбылося.

Напісаны верш мае свой лёс, які ўжо не залежыць ад волі яго аўтара, таксама, як лёсы дзяцей непадуладныя жаданням і намерам іх бацькоў. Але ж хопіць іншасказанняў, пагаворым пра гэту цікавую кнігу, якая зараз ляжыць перада мною. Прыгожая вокладка, выдатныя ілюстрацыі, аўтара якіх мне давялося шукаць па ўсяму зборніку. У рэшце рэшт знайшла яго прозвішча на апошняй старонцы ў выхадных даных, сярод работнікаў рэдакцыі "Мастацкая літаратура", паміж рэдактарам В.Сёмухам і афарміцелем А.Царовым. Знаёмцеся: Анры Маціс. Хачу ад усёй душы павіншаваць "Мастацкую літаратуру" з новым выдатным супрацоўнікам і запытацца, хто, між іншым, атрымаў ганарар і распісаўся ў ведамасці? А раптам нас чакае сенсацыя? У выхадных жа даных я знайшла звесткі і аб тыражы кнігі. Ён таксама заслугоўвае ўвагі: адна тысяча экземпляраў. Аўтару перакладаў растлумачылі, што французская і бельгійская паэзія -- справа элітарная. Шчыра кажучы, даведаўшыся пра гэта, я адчула сапраўдную гордасць: упершыню ў жыцці мяне прылічылі да эліты! А я ж, наіўная, усё жыццё думала, што ў цікавасці да французскай паэзіі няма нічога звышінтэлектуальнага. Дарэчы, пераклады паэзіі на беларускую мову -- з'ява вельмі цікавая, але не самая распаўсюджаная і любімая нашымі выдавецтвамі. А шкада: гэта ж выдатная магчымасць папулярызацыі як замежнай паэзіі, так і беларускай мовы.

Ні ў якім разе не хачу шукаць тут нечый злосны намер, бо ўжо даўным-даўно зразумела: нашым унутраным і знешнім ворагам не трэба марнаваць сілы і сродкі на правядзенне дыверсій у гэтай краіне. Уласнае глупства, непрадбачлівасць і просты недагляд здольны стварыць і ў прамысловасці, і ў душах чалавечых разбурэнні і катастрофы, якія будуць не пад сілу ніводнаму злодзею. Разумею, што ніхто не хацеў абразіць нябожчыка Маціса, разумею, што ў краіне складанасці з паперай і інтэлектам, што яшчэ не ўсяго Чэйза паспелі надрукаваць. Разумею і тое, што, напэўна, нас чакаюць чарговыя выбары, і зноў нашы паштовыя скрынкі будуць забіты лістоўкамі з абяцаннямі райскага жыцця, а пад'езды да самых лямпачак абклеены праграмамі і заклікамі, якія бясследна знікнуць з памяці саміх кандыдатаў у дзень іх абрання. Ды і ўвогуле, гэта справа густу -- на што выкарыстоўваць паперу -- на друкаванне палітычных праграм і заклікаў ці выданне Элюара, Апалінэра, Прэвера. Але богі любяць смяяцца над людзьмі, і калі мы, захапіўшыся палітыкай, пачынаем эканоміць на французскай паэзіі, яны злосна і іранічна пасміхаюцца. Бессмяротныя яшчэ раз нагадваюць нам, што можна пражыць без неабходнага і нельга -- без лішняга.

Не так даўно перакладчыцу гэтага зборніка Эдзі Агняцвет наведаў Клод Жаліф -- пасол Францыі ў Беларусі. Ён падарыў ёй букет гваздзікоў, падзякаваў за ўвагу да сваёй краіны, за тое, што паэтэса робіць для папулярызацыі французскага мастацтва на Беларусі.

Мы называем сябе еўрапейскай дзяржавай і хочам, каб нас паважалі ў свеце. Але пры гэтым забываемся, што пачынаць трэба з таго, каб навучыцца з павагай ставіцца да саміх сябе, да сваёй культуры. Гэтага за нас не зробіць ніхто.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# АБРАЗ ІСУСА ХРЫСТА ВЯРНУЎСЯ НА РАДЗІМУ

Цяпер мы больш прывыклі да таго, што каштоўнасці вывозяцца ад нас за мяжу. Ужо нікога не здзіўляе паведамленне, што на мытні затрымалі кантрабанду антыкварыяту, царкоўных абразоў. І тым больш прыемна пачуць, што, наадварот, нешта згубленае і забытае вярнулася ў краіну.

У першыя дні вайны, калі нямецка-фашысцкія войскі імкліва рухаліся па тэрыторыі Беларусі, у адным мястэчку снарад патрапіў у царкву. Нямецкі салдат Карл Гутман забег у палаючы храм і вынес адтуль абраз Ісуса Хрыста.

Ваенныя шляхі прывялі маладога салдата і на бітву пад Масквой, і на абарону правабярэжжа Дняпра, калі яго фарсіравалі савецкія войскі. Але ён жывы і здаровы дачакаўся капітуляцыі Германіі. І ўвесь гэты час насіў пры сабе ікону.





-- Гэта не я выратаваў ікону, а яна зберагла мяне ў тыя цяжкія гады, -- сказаў спадар Гутман.

Сумленне, сэрца і душа гаварылі яму, што абраз павінен вісець не ў яго кватэры, а ў царкве на Беларусі, адкуль быў вывезены больш за 50 гадоў таму.

Карл Гутман звярнуўся за парадай да езуіта ўсходняга абраду айца Ота. Гэтая гісторыя вельмі кранула законніка, і ён звязаўся са спадаром Дэ Вольфам, прэзідэнтам дабрачыннага міжнароднага місіянерскага таварыства святых Кірылы і Мяфодзія. Спадар Дэ Вольф вядзе актыўную місіянерскую дзейнасць на Заходняй Украіне ў грэка-каталіцкіх парафіях. І вось чарговы раз, калі прыехаў з Кёльна ў Львоў, ён заехаў у Мінск і перадаў ікону ў грэка-каталіцкую капліцу Іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі, якая знаходзіцца па вуліцы Прытыцкага.

Гэты падарунак вернікам дарагі ўдвая. Па-першае, як знак увагі і чалавечнасці з боку спадара Гутмана. Па-другое -- Беларуская грэка-каталіцкая царква, якая знаходзіцца, мабыць, у самым жабрацкім стане сярод цэркваў Беларусі (не можа вярнуць ні храмаў, ні ікон, ні літаратуры) рада набыццю любых царкоўных каштоўнасцяў. А такіх -- асабліва.

**С.СЯНКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: вернуты абраз; святар грэка-каталіцкай капліцы ў Мінску айцец КАЗІМІР.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ

**(Валерый УРУБЛЕЎСКІ)**

Мэта газеты, як сведчыць ужо сама яе назва, заключалася ў тым, каб расказаць народу, сялянству праўду, "мужыцкую праўду". Газета бязлітасна і паслядоўна выкрывала антынародную палітыку царызму, паказвала грабежніцкі характар сялянскай рэформы 1861 года, імкнулася пакончыць з верай у добрага цара, з царысцкімі ілюзіямі, пашыранымі ў той час сярод сялянства. Газета даводзіла, што народ можа спадзявацца толькі на ўласныя сілы і на дапамогу сваіх шчырых сяброў і добразычліўцаў -- рэвалюцыянераў. Толькі тады будзе заваявана сапраўдная свабода, пра якую стагоддзямі марыць народ, "якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробімо". Газета спасылалася на антыфеадальную барацьбу рускага народа ("народ у Пецярбургу, Маскве і па цэлай Расеі пачаў вельмі крычаці"), заклікала падтрымаць прагрэсіўны польскі вызваленчы рух, але не забываць пры гэтым і сваіх уласных задач. "Яська-гаспадар з-пад Вільні" (такім псеўданімам з нумара ў нумар падпісвалася газета) амаль цэлы год размаўляў з сялянамі і быў іх верным і разумным дарадчыкам.

У Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы ў Вільнюсе захоўваецца нумар "Мужыцкай праўды", на якім рукой Тадэвуша Урублеўскага зазначана: "Пісаў Валерый Урублеўскі". Мажліва, Валерый, для якога беларуская мова была такой жа роднай, як і польская, і сапраўды ўдзельнічаў у напісанні асобных нумароў гэтага славутага выдання. Яшчэ больш быў патрэбны яго арганізатарскі талент пры наладжванні друкавання газеты. Не выключана, што газета і друкавалася дзе-небудзь у пушчы побач з Саколкай. І ўжо зусім дакладныя звесткі мы маем пра тое, што Урублеўскі, разам са сваімі таварышамі па рэвалюцыйнай арганізацыі, распаўсюджваў газету -- ноччу сядлаў каня і развозіў па вёсках і палях небяспечныя для царскіх улад лісткі. Раніцой сяляне знаходзілі іх ля варот або на прыдарожных слупах. Пісьменных сярод сялян было мала. Наладжваліся калектыўныя чытанні.

З царскіх следчых матэрыялаў відаць, што ў Сакольскім павеце, дзе дзейнічаў Урублеўскі, "Мужыцкая праўда" была асабліва папулярная, некаторыя сяляне ведалі асобныя яе нумары на памяць. Спецыяльная следчая камісія, якая напярэдадні паўстання працавала ў Адэльску, устанавіла, што да распаўсюджвання газеты меў дачыненне фельчар Сакольскага пісарска-егерскага вучылішча Сянкевіч, і запатрабавала, каб загадчык вучылішча (г.зн. Валерый Урублеўскі) прыслаў яго ў Адэльск.

Вядома ж, камісія не дачакалася Сянкевіча. 29 студзеня 1863 года Урублеўскі адказаў, што фельчар па сямейных справах выехаў у Гродна. Валерый разлічыў правільна. Навокал было неспакойна, і камісія паспяшалася закончыць справу і рэціравацца з Адэльска. Так абарвалася нітачка, якая магла прывесці царскіх сышчыкаў да важных адкрыццяў.

Калі Урублеўскі пісаў свой адказ у Адэльскую следчую камісію, у Польшчы ўжо дзевятнаццаты дзень бушавала паўстанне.

Літоўскі правінцыяльны камітэт на чале з Каліноўскім, нягледзячы на разыходжанні, што існавалі паміж рэвалюцыйнымі цэнтрамі Варшавы і Вільні, вырашыў падтрымаць паўстанне польскага народа. Недзе ў патаемным схове ў падпаручніка Урублеўскага ляжаў мандат рэвалюцыйнай арганізацыі, якім засведчвалася, што сціплы загадчык пісарска-егерскага вучылішча займае ў канспіратыўнай іерархіі высокую пасаду ваеннага начальніка (ваяводы) усёй Гродзеншчыны.

Але гэта быў пакуль што военачальнік без арміі. Паўстанне ў Польшчы пачалося заўчасна, калі Беларусь і Літва яшчэ не былі гатовыя да ўзброенага выступлення. Патрэбны быў некаторы тэрмін, каб стварыць паўстанцкія атрады, забяспечыць іх зброяй, вопытнымі кадрамі, усім неабходным. Вялікая падрыхтоўчая работа лажыцца на плечы Урублеўскага. За гэтымі клопатамі яго застае член Часовага ўрада Літвы і Беларусі (так у 1863 годзе стаў называцца Літоўскі правінцыяльны камітэт) Ян Козел, пасланы Каліноўскім у Пецярбург, Маскву і на Беларусь для каардынацыі дзеянняў. "У Гродне сустрэўся я з Урублеўскім, які даўно быў ужо начальнікам Гродзенскай губерні", -- пісаў ён пазней.

Але неўзабаве ў Вільні, у рэвалюцыйнай арганізацыі, адбыўся пераварот. У канцы лютага 1863 года "белыя" на Беларусі і ў Літве вырвалі ўладу з рук "чырвоных". Замест суверэннага Часовага ўрада Літвы і Беларусі, у Вільні ўтварыўся Аддзел варшаўскага ўрада на чале з ліберальным памешчыкам Якубам Гейштарам. Усе мандаты і прызначэнні былога рэвалюцыйнага ўрада Каліноўскага касуюцца. Быў адхілены, такім чынам, і Урублеўскі.

У Гродна прыбыў новы ваявода -- стары эмігрант, які ўдзельнічаў некалі ў паўстанні 1831 года, палкоўнік Ануфрый Духінскі. Нават тыя людзі, ад каго залежала яго прызначэнне, у адзін голас прызнаюць памылковасць гэтага выбару. "Рэгулярны салдат аказаўся няздольным весці лясную вайну", -- піша пра Духінскага член варшаўскага ўрада, прадстаўнік правага крыла "чырвоных" Агатон Гілер. "На мяне ён зрабіў уражанне чалавека аджыўшага", -- пагаджаецца Якуб Гейштар. "...Духінскі да такой ступені не быў азнаёмлены з тутэйшым краем, што нават не ведаў, што ў Брэсце знаходзіцца крэпасць", -- сведчыць Апалін Гафмейстар. "Паўнейшая няздатнасць", -- як бы падсумоўвае ўсе гэтыя ацэнкі-характарыстыкі блізкі да Гілера член варшаўскага паўстанцкага ўрада Аскар Авейдэ. І такі Духінскі меўся кіраваць баявымі дзеяннямі гродзенскіх паўстанцаў.

Але "белыя" пры ўсім сваім жаданні не маглі цалкам пазбавіцца "чырвоных": занадта відавочныя былі іх энергія, вопыт, рэвалюцыйныя заслугі. Былы старшыня беларуска-літоўскага рэвалюцыйнага ўрада Кастусь Каліноўскі атрымлівае мандат паўстанцкага камісара Гродзенскай губерні, Валерый Урублеўскі прызначаецца начальнікам штаба да ваяводы Духінскага. А паколькі Духінскі, як мы ўжо казалі, энергіяй не вылучаўся і не ведаў мясцовых умоў, менавіта на сяброў-аднадумцаў прыйшоўся ўвесь цяжар падрыхтоўкі партызанскай вайны на Гродзеншчыне. На гэты раз Каліноўскі прыбыў у родныя мясціны пад прозвішчам Чарноцкага.

Рэвалюцыянеры разумелі, што іх паражэнне ў спрэчках з "белымі" часовае, што прыйдзе свята і на іх вуліцу. У рэшце рэшт галоўным ворагам зараз быў царызм... Пры сустрэчы з сябрам Урублеўскі з радасцю пераканаўся, што яго думкі зноў супадаюць з думкамі Каліноўскага.

Адзін з галоўных асяродкаў падрыхтоўкі ўзброенага выступлення ў гэты час знаходзіўся ў Беластоку, дзе канспіратары мелі нямала сваіх аднадумцаў нават сярод афіцэраў мясцовага гарнізона, частка якіх належала да вядомай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі "Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы". Гэта была вялікая ўдача: афіцэры добра ведалі размяшчэнне і тактыку царскіх войск, былі гатовы ў любы момант узначаліць паўстанцкія падраздзяленні.

Апаліну Гафмейстару, які прыехаў у Беласток у канцы сакавіка 1863 года, давялося пабываць у галоўнай штаб-кватэры падпольшчыкаў. Разам з ім маем магчымасць зазірнуць туды і мы. Паслухаем яго расказ: "У Беластоку я адшукаў кватэру Чарноцкага (Каліноўскага) і адправіўся з ім да Духінскага, які жыў у нейкага маладога доктара (прозвішча нямецкае, не помню). Там я застаў Урублеўскага над картай разам з Духінскім, вельмі занятых, пры тым мноства асоб, што прыходзілі і выходзілі, якіх я ні раней, ні пасля не бачыў, сцэна, не раўнуючы, як на таўкучцы, кожны спяшаўся..." Перад намі, як жывая, паўстае карціна апошняга напружання канспіратараў перад узброеным выступленнем.

Гродзенскія паўстанцы шчаслівейшыя за іншых -- яны мелі свайго руплівага летапісца, які дзень пры дні заносіў на паперу падзеі іх узброенай барацьбы, іх перамогі і няўдачы. Гэта быў беластоцкі настаўнік Ігнат Арамовіч, ад'ютант у галоўным штабе паўстанцаў Гродзенскага ваяводства. Апынуўшыся пасля паўстання за мяжою, ён выдаў у 1865 годзе ў Швейцарыі свой дзённік-успаміны пад назвай "Летуценні. Запіскі аб партызанскім руху на Гродзеншчыне ў 1863 і 1864 гадах". Кніга -- і гэта вельмі каштоўна для нас -- напісана чалавекам, які на працягу ўсяго паўстання неадлучна знаходзіўся пры Урублеўскім.

Агульнае паўстанне на Гродзеншчыне было прызначана на 12 (24) красавіка 1863 года. У гэты дзень на загадзя намечаны зборны пункт у вёсцы Каменка прыбыло шэсць рэвалюцыйна настроеных афіцэраў беластоцкага гарнізона і сем дзесяткаў іншых добраахвотнікаў з Беластока.

Як ручаінкі ўліваюцца ў раку, так да асноўнага ядра раз-пораз далучаліся новыя групы -- з Бельскага і Сакольскага паветаў, са Свіслачы. З Сакольшчыны добраахвотнікі ішлі асабліва дружна: там была моцная арганізацыя, створаная яшчэ Урублеўскім.

Неўзабаве сюды, у Беластоцка-Сакольскі атрад, з"явіліся Духінскі і Урублеўскі і прынялі каманду на сябе, адначасова пакідаючы за сабой і кіраўніцтва іншымі атрадамі губерні. Тут утварыўся галоўны штаб.

Падлікі паказалі, што ў атрадзе каля трохсот байцоў. Іх падзялілі на тры роты. Дзве з іх узначалілі беластоцкія афіцэры Баранцэвіч і Раман, трэцюю -- адстаўны маёр Эдвард Кярсноўскі, які прывёў у атрад валанцёраў Бельскага павета.

Большасць паўстанцаў не мела ваеннага вопыту, у некаторых не было ніякай зброі, нават кос. Усё гэта моцна трывожыла Урублеўскага. У атрадзе цэлымі днямі безупынна праводзіліся вучэнні. Толькі гэтых дзён аставалася занадта мала.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № № 50-51.**



# ПРЫГАЖОСЦЬ, ПЕРАНЕСЕНАЯ НА ПАЛОТНЫ

**Пасада ў Рамана Кіслага сціплая -- загадчык гаспадаркі школы ў гарадскім пасёлку Свіслач Гродзенскай вобласці, але ведаюць яго многія. І ўсё дзякуючы захапленню жывапісам, якім ён займаецца з дванаццаці гадоў і якому аддае ўвесь вольны час.**

**Раман Іванавіч любіць прыроду, родныя прасторы і пераносіць гэтую прыгажосць і сваё бачанне яе на палотны. Яго работы выстаўляліся ў абласным цэнтры, знаёміліся з імі і жыхары раёна.**

**Раман Іванавіч -- чалавек рознабаковых інтарэсаў. Ён не мае спецыяльнай адукацыі і законы жывапісу і колеру асвойваў самастойна. Сам жа навучыўся ігры на акардэоне, валодае сталярнай і слясарнай справай, захапляецца фатаграфіяй.**

**І ўсё ж галоўнае -- жывапіс. Яго пейзажы ўпрыгожваюць класы школы, дзе ён працуе, экспануюцца ў мясцовым музеі, уваходзяць у калекцыі аматараў мастацтва ў суседняй Польшчы.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Раман КІСЛЫ; праца мастака "Зімні пейзаж".**

**Фота аўтара.**



## З БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАТЭЛІІ

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО КАНВЕРТА

Многія старонкі гісторыі беларускай філатэліі былі доўгі час невядомы нават філатэлістам. Большасць калекцыянераў паштовых марак не ведала і не ўяўляла, колькі цяжкасцей, перашкод, забарон стваралі ўлады пры рэалізацыі выпуску тых ці іншых паштовых выданняў, заказаных пошце беларускімі філатэлістамі.

У 1962 годзе ў Беларусі пачалі падрыхтоўку да святкавання 125-годдзя з дня нараджэння К. Каліноўскага. Уключыліся ў гэтую падрыхтоўку і нашы філатэлісты. У канцы красавіка (амаль за год да юбілею) на пасяджэнні прэзідыума праўлення Беларускага рэспубліканскага аддзялення Усесаюзнага таварыства філатэлістаў было прынята рашэнне звярнуцца ў ЦК КПБ і Міністэрства сувязі БССР з просьбай выпусціць да юбілею паштовую марку, канверт і спецыяльны штэмпель для юбілейнага гашэння. Мы прасілі вырабіць два штэмпелі -- адзін для спецгашэння ў Мінску, другі -- у Гродне. Пісьмы з хадайніцтвам былі перададзены ў ЦК і Міністэрства сувязі БССР. Чакаць адказу давялося некалькі месяцаў, потым -- выклік у ЦК, дзе быў дадзены адказ на нашу просьбу: ні марка, ні канверт выпушчаны не будуць, магчыма будзе толькі спецштэмпель і толькі для Мінска. "Хопіць і аднаго", лічылі чыноўнікі з партыйнага дому. У Міністэрстве сувязі БССР заявілі, што, маўляў, позна, мала часу на выкананне заяўкі і што няма адпаведных указанняў зверху. Хаця да юбілею заставалася больш за паўгода і можна было выпусціць, калі не марку, то хаця б канверт з партрэтам К. Каліноўскага і спецштэмпель. Пачаліся паўторныя хаджэнні па інстанцыях, просьбы, пісьмы, а ў адказ -- зневажанні і абраза. Адзін з чыноўнікаў ЦК КПБ у адказ на заўвагу, што пра Каліноўскага, як кіраўніка паўстання супраць царызму, ведаюць не толькі ў Беларусі, але і ў Літве, у Польшчы, заявіў: "Калі некаторыя яго ведаюць, то гэта не значыць, што трэба выпускаць на ўсю краіну мільённымі тыражамі канверты і марку". У рэшце рэшт пасля неаднаразовых паходаў, просьбаў, пісьмаў у ЦК быў дадзены дазвол на выраб толькі спецштэмпеля да юбілею. Маркі і канверты звычайна выдаваліся мільённымі тыражамі і разыходзіліся па краіне і свеце, несучы інфармацыю пра каго-небудзь ці пра што-небудзь, а калі хочуць скараціць гэтую інфармацыю, то робяць спецгашэнне. Спецгашэнняў жа звычайна бывае не больш за 1 000--1 200 штук, і яны звычайна асядаюць у калекцыях.

Спецыяльны штэмпель быў выраблены ў майстэрнях Міністэрства сувязі СССР па малюнку мастака А. Плятнёва. Юбілейны тэкст на штэмпелі дадзены на беларускай і рускай мовах: "125 год з дня нараджэння К. Каліноўскага. Мінск. Паштамт. 2.2.1963 г." Прымяняўся ён адзін дзень.

Калі стала вядома, што афіцыйны канверт Міністэрства сувязі СССР выдаваць не збіраецца, вырашылі выдаць яго ўласнымі сіламі. Такі вопыт у мінскага клуба філатэлістаў быў. Да гэтага часу ён выдаў больш за 10 канвертаў для розных клубных гашэнняў. У канцы студзеня 1963 года ў друкарні "Трансжелдориздата" было выраблена 1 000 канвертаў да юбілейнага гашэння. На звычайным стандартным канверце фіялетавым колерам быў зроблены надпіс з 7 радкоў на рускай мове: "125 год з дня нараджэння беларускага рэвалюцыянера К.С. Каліноўскага (Кастуся Каліноўскага). 1838. 2.II-1963". Такім чынам да 2 лютага 1963 года сярод філатэлістаў Мінска была распаўсюджана 1 000 канвертаў і на іх праведзена спецыяльнае гашэнне.

Але гэта не ўся гісторыя з канвертам, прысвечаным К. Каліноўскаму. Калі сярод філатэлістаў Мінска распаўсюдзілася вестка аб тым, што афіцыйнага канверта да юбілею не будзе, многія філатэлісты прапанавалі ідэі, як ажыццявіць выпуск такога канверта. На жаль, не помню, хто прынёс у праўленне клуба канверт з намаляванымі партрэтам К. Каліноўскага і паўстанцкай зброяй. Малюнак быў выкананы тушшу. Аўтар прапанаваў выкарыстаць яго для выпуску юбілейнага канверта. Аднак гэта не ўдалося зрабіць. Малюнак на канверце патрабаваў распрацоўкі, патрэбны быў юбілейны тэкст, а часу не хапала. На гэтым адзіным канверце, выраблeным ручным спосабам, было зроблена спецыяльнае гашэнне юбілейным штэмпелем. Доўгі час канверт захоўваўся ў калекцыі мінчаніна Г. Васкрасенскага, пачынальніка калекцыяніравання канвертаў на беларускую тэму. Незадоўга да смерці Георгій Васільевіч прапанаваў канверт мне. І хаця гэта не паштовы выпуск, а самвыдат, я захоўваю яго ў калекцыі нароўні з паштовымі. Гэта ж частка гісторыі беларускай філатэліі.

**Леў КОЛАСАЎ.**




**СВАІХ ЧЫТАЧОЎ**

**на Беларусі, у блізкім і далёкім замежжы віншуем з Калядамі і Новым, 1994-м годам! Усім -- найлепшыя, шчырыя пажаданні!**

**"Голас Радзімы".**



**Нешта год ад года любімае свята -- Новы год становіцца ўсё менш і менш радасным. Спачатку падумалася, гэта таму, што старэю сама і ўсё далей і далей адыходзіць дзіцячае захапленне чароўным пахам ёлкі, святочных прысмакаў і чакання падарункаў. А потым падумалася, што не такая я, зрэшты, яшчэ і старая, і таму ўзнікла жаданне разабрацца ўсё ж такі, у чым справа. Для гэтага спатрэбілася зусім нямнога -- больш пільна ўглядзецца ў сённяшняе жыццё і, прабачце, цэны.**

**Спачатку ўзнікла жаданне скласці нешта накшталт навагодняй спажывецкай карзіны — падлічыць, у якую суму абыдзецца сярэднестатыстычнай сям"і сустрэча гэтага свята. Пахадзіла я па магазінах, паглядзела на тавары і цэннікі, і ідэя гэтая знікла разам з рэшткамі навагодняга настрою. Колькі будзе каштаваць сапраўдная ёлка, пакуль што невядома, хаця па радыё давялося ўжо пачуць неверагодную цану -- да 50 тысяч рублёў! Штучныя прыгажуні абыдуцца яшчэ даражэй, тут цана пачынаецца таксама з дзесяткаў тысяч. Што тычыцца ёлачных цацак, то ёсць выбар -- ад шыкоўных замежных набораў шароў коштам за 100 тысяч да нашых, айчынных, але кожны не менш чым рублёў па 800--900. Дадайце сюды ж і гірлянду з рознакаляровых лямпачак тысяч за 20 і можаце пераходзіць да святочных падарункаў. Вось тут мне стала зусім сумна, бо адны магазіны прапануюць дзіцячыя цацкі толькі за валюту, другія -- за "зайчыкі", але і там, і там гэтыя дзіўныя мішкі, лялькі і машыны сярэднестатыстычнай сям"і з сярэднестатыстычным дзіцем недаступныя. Можна, канешне, набыць і нешта больш таннае -- шакаладнага Дзеда Мароза тысяч за 10 ці зусім ужо танны паветраны шарык, але як будзе адчуваць сябе тваё дзіця сярод сяброў, у якіх больш заможныя бацькі і, адпаведна, даражэйшыя падарункі! Сёння ў многіх дзіцячых садках горада няма сродкаў на навагоднія падарункі, і бацькам прапанавалі самім скласці ў пакецікі шакаладкі і цукеркі, каб пасля прадстаўлення раздаць малым. Пакецікі падпісаны, бо крый Божа, каб Леначцы дастаўся замест яе карамелі Наташачкін "снікерс", а Ванечку замест яго апельсіна Сашын яблык. Але ж як сябе будуць адчуваць дзеці, якія, распакаваўшы пакецікі, захочуць пахваліцца адзін перад адным сваімі прысмакамі! Пасля гэтага замест шампанскага "Дэлап"ерэ" (за 20 тысяч бутэлька) бацькам застанецца наліць сабе шклянку традыцыйнай і больш таннай горкай, каб не бачыць ні свайго, ні дзяцей сваіх прыніжэння.**

**Так што з Новым годам, паважаныя, з новым шчасцем!**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**По ініцыятыве Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, з удзелам Міністэрства інфармацыі й Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Беларусі, Беларускай энцыклапедыі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны 4--6 траўня 1994 года ў Мінску адбудзецца першая нацыянальная канферэнцыя "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі". На ёй будуць разгледжаны практычны вопыт айчыннай тэрмінатворчай дзейнасці, пытанні распрацоўкі беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, укладання рознагаліновых слоўнікаў.**

**Аргкамітэт канферэнцыі просіць паведаміць пра намер удзельнічаць з прыкладаннем назову даклада (паведамлення) і кароткай анатацыі зместу аб'ёмам да 200 знакаў. Анатацыі мяркуецца змясціць у праграме канферэнцыі, а даклады й разгорнутыя паведамленні -- надрукаваць у спецыяльным выніковым зборніку.**

**Просім удзельнікаў канферэнцыі даслаць таксама звесткі пра сябе: імя й прозвішча, месца працы й пасада, навуковая ступень, навуковае званне, службовы й хатні адрасы, тэлефоны.**

**Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 1 сакавіка 1994 года на адрас: 220005, Мінск, вуліца Румянцава, 13. ТБМ імя Ф.Скарыны, аргкамітэт тэрміналагічнай канферэнцыі.**

**Даведачныя тэлефоны: 33-25-11, 39-50-61, 39-44-77.**

**Аргкамітэт.**


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1833. Падпісана да друку 27. 12.1993 г.